
Фэст побач Збуча →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Сэрца Дуброўшчыны →8

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 40 (29401) Год LVII

Беласток, 30 верасня 2012 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА


# Хроніка будучыні



**— Савецкі чалавек ахвяраваў сябе самога. Яшчэ адчуеце, што вы яго страцілі, — злавесна гучалі словы выказаныя Кшыштафам Лаўнічакам, які іграў ролю Чырвонага партызана ў „Чарнобыльскай малітве. Хроніцы будучыні” — сцэнічнай адаптацыі кнігі Святланы Алексіевіч. Яе прэм’ера, а дакладна перфарматыўнае чытанне, адбылася ў Драматычым тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў вечар, які папярэджваў галоўны дзень выбараў ў беларускую Палату прадстаўнікоў. Роўна злавесна прагучалі словы Аляксандра Лукашэнкі, прайграныя на канец блізка паўтарагадзінага чытання: „Атамная электрастанцыя ў Беларусі мусіць быць і мы яе пабудуем”. Са здымкаў на сценах фае тэатра спаглядалі сем’і беларускіх палітвязняў (выстаўка дзякуючы ветлівасці Беларускага дома ў Варшаве).**

— Гэтая выстава вельмі згодная з маёй лініяй думак. Гэта наш голас у справе выбараў у Беларусі, — сказала яшчэ да прэм’еры рэжысёрка спектакля, а заадно дырэктарка тэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур.

Адзін з рэцэнзентаў кніжкі Алексіевіч напісаў: „Структура кнігі нагадвае грэчаскую трагедыю, а змест — прыпеў Апакаліпсіса”. Да сцэнічнага чытання рэжысёрка выкарыстала Хор баб (жанчын з універсітэта Трэцяга ўзросту), якія асацыюючца якраз з грэчаскай трагедыяй і якія галоўным чынам спевам „каменціравалі” аповесць. Кнігу складаюць маналогі і дыялогі жыхароў тэрыторый распаложаных найбліжэй Чарнобыля, у якім 26 красавіка 1986 года дайшло да катастрафічнай у выніках аварыі атамнай электрастанцыі: простых людзей, вучоных, салдат, пажарнікаў, дзяцей, фатографаў ці на канец камуністычных дзеячаў. Самой аўтаркі не было на прэм’еры 22 верасня. Рашыла яна быць у Беларусі, каб у нядзелю... не пайсці на парламенцкія выбары, бо, як заявіла, „калі столькі абману, удзельнічаць у гэтым проста непрыстойна”.

Рэжысёрка падрыхтавала чытанне ў форме экскурсіі па чарнобыльскім музеі. Пара акцёраў (у ролях 11 асоб) у рашучай большасці з тэкстамі ў руках, першую сцэну мовіла па-беларуску (пераклад Аліны Ваўранюк). Пасля ўжо наведванне музея адбывалася па-польску. Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Перад канчатковай прэм’ерай у студзені будучага года спектакль у час рэпетыцый будзе мадыфікавацца мо з тысячу раз. Я хацела, каб яго мова не была ані верыстычнай, ані сантыментальнай, ані празмерна ўдараючай жахам, таму што ён і так тут ёсць. Для мяне жах павінен быць схаваны пад формай, якую кранаем.

Тэксты выказваныя на сцэне мелі час ад часу трагікамічнае адценне. Як той выказаны Красуняй-камсамолкай (Барбара Пігонь): «Прашу стаць у чарзе, а кожны паглядзіць экспанаты без таўпы і апраменіцца на памяць (...). Пачастунак? Чакаюць плады забруджанай зямлі — памідоры, агуркі, грыбы, фасоля, хлеб выпяканы з апрамененага збожжа, масла, самагонка, кілбаса, сала! Усё можна купіць у музейнай краме, а таксама на старонцы www.czarnobylsmacznego. Варта мець штосьці, што распраменіць прамяністым бляскам!»

Дана Лукасінская, драматург, загадчыца літаратурнай часткі тэатра, якая адаптавала кнігу Святланы Алексіевіч:

— Чарнобыльская катастрофа паказала ганарлівасць чалавека, які ў сутыкненні з навукай змяшчае сябе на п’едэстале, а ў момант гора становіцца бездапаможным, безабаронным. Гэтая катастрофа паказала таксама як паводзіць сябе савецкі чалавек у камуністычным рэжыме. Паказвае з аднаго боку трагедыю паасобнага чалавека, з другога — развал імперыі. Аднак, асабіста для мяне, „Чарнобыльская малітва” з’яўляецца аповедам пра галакост натуры. З зоны забруджання эвакуавалі больш за сотню тысяч людзей, засталіся ўсе хатнія жывёлы. Людзям сказалі, што выязджаюць на тры дні, дык яны пакінулі сваім катам, сабакам, папугаям ежу на тры дні. А пасля ніколі не вярнуліся. Тыя жывёлы з’ядалі тое, што маглі, а пасля адзін аднаго, пасля зусім адзічэлі, а на канец прыходзілі атрады ліквідатараў і іх стралялі. Гэта для мяне шок.

Рэжысёрка „Малітвы”:

— Для мяне найважнейшы ў гэтай кнізе быў падзагаловак „Хроніка будучыні”, тое, чым сёння ментальна з’яўляецца *homo sovieticus*. Паказвае між іншым



на тое, што на людскім няшчасці будуецца экстрэмальны турызм, на чалавечым горы мы ў змозе даставаць ідучы за ім кіч і ўдаецца на гэтым зарабіць. Людзі, каб не ашалець, стараючца ставіць ахоўныя бар’еры. Магчымасць іх перасоўвання ў адзін або другі бок з’яўляецца для мяне найважнейшым матoрам пошукаў з іншымі стваральнікамі гэтага спектакля. Трэба сабе ставіць пытанні аб сэнсе і якасці жыцця. Гэта моцна сучасны тэкст. Папраўдзе ствараем музей Чарнобыля, ды фактычна мы ў зоне нашых розных псіхічных накладак.

Акцёр Бернард Баня, які ўвасобіўся ў Праваднiка ядзернай экскурсіі:

— Першы раз сутыкаюся ў такой творчай негатоўнасці з гледачамі. Не хочам расказваць пра гістарычныя факты, ані іх разграбаць, а хутчэй далікатна праваказаць гледача да таго, каб не толькі глядзеў на карцінкі, што паказваюцца на сцэне і на акцёраў, якія штосьці перажываюць, а сам увайшоў у гэтую гісторыю і абдумаў, што з яе вынікае праз тыя 26 гадоў. Усведаміў сабе самому, ад чаго на крок мы былі, і што можа нас спаткаць у будучыні. Калі я першы раз чытаў гэты тэкст, меў ахвоту яго адкінуць. Тут такая магутнасць пакуты і трагедыі людзей. У „Чарнобыльскай малітве” нагрувашчанне злосці вядзе да самазнішчэння.

Аляксандра Май (Ікона Будслаўскай Багамаці):

— Кожны з герояў мае тут сваю трагедыю, якую яму накінулі ў пару секунд.

Агнешка Мажэйка-Шакоўская (Марыя Чарнобыльская):

— Паказваем бездапаможнасць у адносінах да таго, што здарылася і можа здарыцца. Паказваем гэтых калекіх людзей, якія нічога не маглі зрабіць.

Моніка Заборская-Врублеўская (Аплазія):

— Няма ў гэтых людзях пакуты, а ёсць згода на тое, што іх кранула і адчуванне, што мусяць далей жыць.

Пасля спектакля вядомы дакументаліст Беластоцкага цэнтра Польскага тэлебачання Юры Каліна падзяліўся з намі сваімі ўражаннямі:

— Я адчуў сябе момантам як у чарнобыльскай зоне, у якой я быў дванаццаць гадоў таму. Частку тэкстаў, якія я тут чуў, скарыстаў у фільме „Чарнобыльцы”. Я сядзеў сярод гледачоў і прыгадваў сабе, як мы ставілі той фільм. Частку з паказаных у спектаклі асоб мы там сустрэлі жывымі. Гэта нялёгкая і сумная п’еса і таму не ведаю, ці ў Беластоку будзе карыстацца вялікай папулярнасцю. Людзі ў тэатры найчасцей шукаюць забаву, бурлеск, а тут іх няма.

Чытанне „Чарнобыльскай малітвы” адбылося ў рамках фестывалю „Inny Wymiar”, над якім „Ніва” трымае патранаж. Найбліжэйшыя спектаклі-чытанні: 18 і 19 кастрычніка.





# Вясёлыя карцінкі

Некалі ў маім, яшчэ савецкім, дзяцінстве быў часопіс „Весёлые картинки” з коміксамі і іншымі цікавінкамі. Успомніўся мне гэты часопіс праз амаль сорак гадоў акурат пад чарговыя выбары. Перыядычна ў Рэспубліцы Беларусь адбываецца шматлюдны спектакль пад назвай „усенародныя выбары”. Па вялікім рахунку цікавым ён бывае толькі раз у пяць гадоў — у час прэзідэнцкай кампаніі. Гульня тады ідзе па-сур’ёзнаму і з вялікай колькасцю „актораў” і „гледачоў”. Выбары ж у мясцовыя саветы і парламент вызначаюцца, як правіла, шэрасцю і абсалютнай прадказальнасцю. Дэпутаты прызначаны загадзя, усе астатнія кандыдаты пакліканы ствараць антураж і бачнасць альтэрнатывы. Схема адпрацаваная амаль дасканала. Але ў кожную з такіх кампаній усё роўна вылазяць „рогі, капыты і хвасты” тых, хто праводзіць і рэалізуе запланаваны сцэнарый. Бягучая кампанія па афармленні „народных абраннікаў” у Вярхоўны Савет, які ўжо даўно нічога не вырашае, выдалася надзвычай млявай, прэснай і сумнай. Крыху дадалі перцу і солі прадстаўнікі дэмакратычных партый БНФ і АГП. Правеўшы агітацыйна-інфармацыйную кампанію, яны знялі сваіх кандыдатаў, заявіўшы пра фарс выбарчага працэсу. Партрэты дэмакратычных прэтэндэнтаў, якія былі развешаны на ўчастках, пачалі ў спешным парадку заклейваць.

Самай вялікай атракцыяй сучасных выбараў у РБ з’яўляецца так званае датэрміновае галасаванне. Пяць дзён перад асноўным галасаваннем грамадзяне маюць права прыйсці на ўчастак і аддаць свой голас. І вось тут пачынаецца сапраўдная „эквілібрыстыка” ў выкананні камісій. У якасці эксперымента іду і рэгіструюся назіральнікам на выбарчы ўчастак, што размешчаны ў звычайнай школе. Трэба сказаць, што асноўная частка выбарчых участкаў размешчана якраз у школах, а аснову камісій складаюць настаўнікі і адміністрацыя гэтых навучальных установ. Сяджу і назіраю: першы дзень прыйшоў 21 чалавек, другі — 32, трэці — 50, усё праўдзіва і натуральна. Чацвёрты дзень прыходжу ў апошнія дзве гадзіны найбольш актыўнага галасавання, калі людзі вяртаюцца з працы. На сцяне памяшкання, дзе ідзе галасаванне, чамусьці знік гадзіннік. Нібыта села батарэйка. Нібы сімвал дэзарыентацыі.

Людзі ідуць на ўчастак з розным тонусам, пераважна жанчыны і асобы сталага веку. Адны прыходзяць з прыўзнятым настроем. Кажуць, што прыйшлі „выканаць свой доўг”. Некаторыя прыходзяць панурымі, нешта бурчаць сабе пад нос. Трапляюцца і каларытныя персанажы. Мужчына гадоў пяцідзесяці з парога заяўляе сваю ўласную праграму: „Я за тое, каб не было перавыборчасці, а то склады перапоўнены”. І ў якасці прэзента спрабуе раздаць членам камісіі вялікія галоўкі цыбулі. Мажная кабета затрымліваецца пры стале з непрыхаванай трывогай: „Адзначце, што мой сын у камандзіроўцы за мяжой, прыедзе толькі ў лютым. Толькі абавязкова адзначце, каб ніхто не падумаў, што ён праціў уласці”. Трэнер у спартовым касцюме ніяк не можа зарыентавацца ў памяшканні куды кідаць бюлетэнь, а на развітанне хваліцца, што ён выхаваў прызёрку параалімпіяды.

За апошнюю гадзіну прыходзіць 12 чалавек. Галасаванне заканчваецца. „Правільныя” назіральнікі, па „выпадковым” збегу акалічнасцей настаўнікі гэтай жа школы, пішуць па ўзоры акты, што ўсё адбывалася без парушэння заканадаўства і зыходзяць да абвяшчэння выніку. Сябры камісіі абмяркоўваюць паміж сабой праблемы выхавання і маралі. Але вось вывешваюць пратакол за дзень — выяўляецца, што ў пятніцу прыйшлі 354 (!) чалавекі. „Пайшоў народ!” — не міргнуўшы вокам, канстатуе старшыня камісіі, па сумяшчальніцтве дырэктар школы. Канец першага акта...

Назаўтра, у выходную суботу, калі ў датэрміновым галасаванні павінна быць найбольш людзей, лічу галасы ад першай да апошняй хвіліны — атрымліваецца 61. На гэты раз столькі і ў камісіі...

Ну, а дзень асноўнага галасавання — гэта асобная дзея. Скрыні і сталы вынесены ў вялікае фае. На сцяне вісіць геніяльны па сваёй глыбіні лозунг: „Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там дзе не смецяць”. У самым канцы пры падліку галасоў назіраць за працэсам не даюць. Але і так усё зразумела. У выніковым пратаколе з’яўляецца лічба прагаласаваўшых на некалькі соцень большая, чым было насамрэч. Вось такія выбары — адны аддаюць свой голас, іншыя — прадаюць душу. Спектакль адыграны. Заслона...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Палітычны голад

Ежа і палітыка — дзве неразлучныя сферы. У час міждзяржаўных сустрэч дзяржаўныя дзеячы спачатку ўгашчаюць адзін аднаго багатым абедам. Толькі калі сыта наядуцца, пачынаюць абмяркоўваць што і як, калі і дзе, нашто і для чаго. Ці ж няпраўда, што свет з поўным страўнікам прыгажэйшы? Звычаем такіх банкетаў з’яўляецца частаванне нацыянальнымі стравамі краін-гаспадароў сустрэчы. Запрошаны госць з’ядае ўсё, што яму падсунулі пад нос і не капрызіць. Нават калі гэта кішкі па-варшаўску. Не гаворачы ўжо пра бігас. Гэтая другая страва неабавязкова польскі далікатэс. Аб „згнілюху”, значыць бігасе як лакомым смакоцці, расказваў ужо Дон Кіхот — герой незабыўнай аповесці Сервантэса. Назва „згнілюх” як найбольш падыходзіць іспанскаму далікатэсу з капусты, паколькі, каб набраў ён незвычайнага смаку, найперш зачынялі яго ў гліняным гаршку і закопвалі на некалькі тыдняў у зямлю з мэтай адпаведнай ферментацыі. Ды што я тут пра бігос! Хто пасмеў бы падаць згнілюха прэзідэнту ЗША ці Беларусі ў час магчымай сустрэчы ў Польшчы? Ікру дык чаму б і не, можна падаць. Кожны з’есць яе не міргнуўшы вокам і яшчэ абліжацца напаказ. Бо ікра гэта ікра. Хаця... што такое ікра? Не ведаю. Вялікі французскі пісьменнік Аляксандр Дзюма ў сваім *Кулінарным слоўніку* пад лозунгам *ікра* змясціў такую вось заўвагу: „Месяц я быў сведкам лоўлі ікры (так!) на ўзбярэжжы Каспія. (...) Мяса ікры мае далікатны смак, што вельмі рэдкае ў асятровых”. Дарэчы, гэта цікава, што не ўспамінае аб паляванні на... „флякі”.

Кажуць, што галодны палітык усюды бачыць наетых, а наеты — галодных. Былы прэм’ер Італіі Сільвія Берлюсконі заўжды адчуваў сябе галодным, таму нават не прыкмеціў, што яго краіну ахоплівае крызіс і шмат італьянцаў пачынае недаядаць. Самалюбна, аднак, еў крадком тое, што выкалупаў сабе... з носа. Задавальненне ад уласных вылучэнняў з носа мае сваю вучоную назву — мукафагія. Дарэчы, шкода, што прэм’ер не паказвае схільнасці да літафагіі — з’ядання камення. Бо такая колькасць каменіскаў, якімі хацелі б абдараваць яго землякі, хапіла б яму на пажыўныя сняданкі і абеды да канца жыцця. А так ён прысуджаны на сябе самога. У сваю чаргу Уладзімір Ленін, правадыр Кастрычніцкай рэвалюцыі, які ніколі не галадаў, сцвярджаў, што „змаганне за хлеб гэта змаганне за сацыялізм”. Меў, вядома, наўме голад, які трактаваў як сінонім хлеба, а хутчэй яго недахоп. Ідучы за думкай, што галоднаму хлеб наўме, слушна заключыў, што завядзе сацыялізм, калі запхае народ хлебам. Забыўся, аднак, што не адным хлебам жыве чалавек. Нават у сацыялізме. Але не так, каб адразу прапанаваць ненажэрам ікру. Надоўга да Леніна такую ж памылку зрабіла каралева Марыя Антаніна, якая на вестку, што люд Францыі галадае, мела сказаць: „Калі не маюць хлеба, хай ядуць пернікі!”. Розум розумам, а жыццё кончыла яна на гільяціне. Ленін таксама не лепш, бо ў маўзалеі.

Ды каб сказаць праўду, дык не заўжды нацыянальныя стравы краін-гаспадароў прыслужваюцца запрошаным дзяржаўным дзеячам. Барыса Ельцына, першага прэзідэнта Расіі, пачаставалі калісь кумысам — кісламалочным напоем з кабылінага малака. Гэтым нацыянальным далікатэсам угасцілі яго ў Якуціі. Не пайшло гэта к дабру ані Ельцыну, ані пачцівым якутам. „Няма ў мяне ў галаве ніякіх дзяржаўных думак. Думка толькі адна...” — успамінаў пасля расійскі прэзідэнт. І так мары якутаў, што візіт Ельцына прынясе ім нейкія карысці, кончыліся там... дзе кончыліся.

Прыём замежных палітыкаў найвышэйшага ўзроўню гэта для гаспадароў міждзяржаўнай сустрэчы сур’ёзная справа. Палітыкі бываюць капрызнымі. Ды што там! Заўжды ў нацыянальным меню можна знайсці штосьці, што будзе ў смак высокаму госцю. Праблема, аднак, з прэзідэнтам Беларусі. Калі спыталіся ў яго, што ён есць, адказаў, што „толькі беларускае, замежнае не ідзе мне ў рот”. Дык чым яго ўчаставаць? Жабіным сцягенцам не, готдогам не. І таму ніхто яго не запрашае. Бо што, галодны мае вярнуцца ў Беларусь і пасля будзе расказваць, што ўсюды нэндза, толькі Беларусь за ўсё багатая?

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Трымаць пальцы за оперу і тэатр



У пятніцу (28 верасня) пасля шматгадовых старанняў заінаўгуруе дзейнасць Падляшская опера і філармонія ў новай сядзібе, імпазантнай па архітэктурным кшталце і велічыні. Як ужо напэўна ведаеце, у першы дзень дойдзе да прэм’еры ў оперы і філармоніі „Страшнага двара” Станіслава Манюшкі (сцэнічнае афармленне да гэтага мерапрыемства змяшчаецца на дзевяці аўтафурах, а выканана яно з сапраўднай драўніны). На другі дзень упершыню будзе паказаны мюзікл „Корчак” Крыса Ульямса, на рэпетыцыях якога„Ніва” гасцявала, аб чым пісалі мы ў першым вераснёвым нумары. Перад інаўгурацыяй дзейнасці ў новым будынку і перад новым мастацкім сезонам, дырэктар ПОіФ Раберта Скальмоўскі сарганізаваў прэс-канферэнцыю. Прадставіў на ёй касцюмы пашытыя для фільма „Агнём і мячом”, пазычаныя з Мельніка, дзе мае ўзнікнуць музей аснаваны якраз на іх. Разам з іншымі рэквізітамі з фільма да канца года можна будзе іх пабачыць, а нават дакрануцца да іх, на выстаўцы ў оперы, а некаторыя з іх надзенуць акцёры „Страшнага двара”. Агулам будзе тут каля трохсот экспанатаў.

— Для гледачоў цікава будзе пабачыць касцюм, у якім у „Агнём і мячом” іграла, напрыклад, Ізабела Скарупка, — пераконваў дырэктар Скальмоўскі, заадно рэжысёр абодвух прэм’ерных прадстаўленняў.

Раздумваючы аб будучыні ягонай установы, выказаў спадзяванне:

— Мы хацелі б, каб опера стала цэнтрам мастацтва для кожнага.

Дырэктар і войт Мельніцкай гміны Адам Табота на вачах журналістаў падпісалі дамову аб супрацоўніцтве. Раберта Скальмоўскі прадбачыў таксама наладжанне дзелавых кантактаў з іншымі падляшскімі гмінамі, між іншым з Орляй, дзе ўжо мае адбыцца паказ „Корчака” ў г.зв. канцэртнай версіі ў тамашняй сінагозе. Прэм’еры гэтага спактакля будзе спадарожнічаць канферэнцыя заступніка правоў дзіцяці з нагоды Карчакоўскага года, у час якой легендзе гданьскай „Салідарнасці” Генрыцы Кшыванос будзе ўручаны дзяцьмі Ордэн усмешкі.

Пры нагодзе прэс-канферэнцыі дырэктар Скальмоўскі пахваліўся выдадзеным ужо каляровым буклетам, у якім можна знайсці рэпертуар ПОіФ да канца года. Быў ён падрыхтаваны, што з’яўляецца рэдкасцю прынамсі ў падляшскім маштабе, па-польску, па-беларуску і па-літоўску. Таксама задума з запрашэннямі ў оперу і філармонію ў Беластоку спалучаная з бясплатнымі візамі для жыхароў Беларусі „набірае румянцу”. Як сказаў дырэктар, два беластоцкія турбюро зацікавіліся гэтай прапановай, а мае яна быць прадстаўлена на турыстычным кірмашы ў Гродне 4-6 кастрычніка. У сваю чаргу Драмтэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку пад новым кіраўніцтвам Агнешкі Карыткоўскай-Мазур (размову з ёю публікавалі мы ў апошнім жнівеньскім нумары „Нівы”) пачаў ужо мастацкі сезон. Некалькі дзён таму акцёркі стаўленага тут ад лютага спектакля „Stworzenia sceniczne” пахваліліся, што спектакль выпучылі першай узнагародай за „найлепшы спектакль малых форм” на прэстыжным VII Міжнародным тэатральным фестывалі „Белая вежа” ў беларускім Брэсце. Адна з узнагарод павандравала таксама да іграючай у спектаклі акцёркі Аліцыі Дамброўскай. Гран-пры здабыў „Макбет” познаньскага Тэатра Бюро Падарожжаў. Дырэктар Карыткоўская-Мазур паінфармавала, што праўдападобна на пачатку будучага года яе тэатр мае намер рушыць на гастролі па Беларусі з некалькімі спектаклямі. Неафіцыйна ведаю, што ідуць прымеркі да больш шчыльнага супрацоўніцтва з Драмтэатрам у Гродне і наладжання кантактаў м.інш. з Тэатрам беларускай драматургіі ў Мінску.

Заадно за Падляшскую оперу і філармонію і Драмтэатр трымаю пальцы, паколькі гэта першыя вялікія культурныя ўстановы Беластока, якія ў сваіх сістэмных дзеяннях бачаць шматкультурны маштаб рэгіёна і яго сталіцы — асаблівая беларускасць, якой не трактуюць як праславутае неабходнае зло.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# X Археалагічны фэст побач Збуча

Археалагічныя фэсты на полі вёскі Збуч Чыжоўскай гміны заўважальна розняцца ад іншых беларускіх фэстаў, хаця спалучаюць іх нашыя беларускія песні і музыка. Для захоўвання тоеснасці вельмі важным з'яўляецца веданне сваёй гісторыі. Археалагічныя фэсты на гарадзішчы амаль тысячагадовай даўнасці побач Збуча спрыяюць разбуджванню зацікаўлення нашым мінулым, асабліва ў маладым пакаленні.



Інфармацыю пра сярэднявечнае гарадзішча і навакольныя землі можна прачытаць у матэрыялах, якія выдала Чыжоўская гміна. Ля гарадзішча затрымліваюцца турысты. Ідуць яны паглядзець насып, які акружае гарадзішча, заходзяць усярэдзіну. Раней жыхары Збуча ўсярэдзіне гарадзішча пасвілі кароў, а зараз глядзяць на яго, як на сваю візітную картачку, што расслаўляе іх сяло на ўсё Падляшша і па-за межы нашага ваяводства. Юбілейны X Археалагічны фэст, які адбыўся 16 верасня побач Збуча, арганізавалі маршалак Падляшскага ваяводства, войт Чыжоўскай гміны, Гмінны асяродак культуры ў Чыжах і Аб'яднанне старажытнікаў з Варшавы. Сярод гасцей мерапрыемства былі, між іншым, дэпутат Сейма Роберт Тышкевіч, Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук, са сваімі памочнікамі. Знайшлі яны там між іншым стоўб, які мог быць часткай брамы і людскія шкілеты XVII стагоддзя. Археолагі мяркуюць, што звонку насыпу быў вялікі роў з вадой, які дазваляў больш паспяхова абараняцца ў гарадзішчы. Яшчэ раней у гарадзішчы былі знойдзены людскія шкілеты XIV-XV але сёлетняе юбілейнае мерапрыемства наладжанае было асабліва багата, з удзелам вялікай колькасці нашых беларускіх калектываў, якія ўдала прэзентаваліся на высокай сцэне. Цікава выступілі мясцовыя калектывы — «Збучанкі», «Чыжавяне» і «Незабудкі» з Курашава, якія асабліва цёпла ўспрыняла мясцовая публіка. Перад сабранымі запрэзентаваліся таксама «Жаваранкі»

ную вопратку, займаўся на кавальскіх прыладах гэтага перыяду. Збоку распалажыліся ганчар і разьбяр па дрэве, таксама апранутыя, як і іх жанчыны, у старажытную вопратку. Славянскія ваяўнікі прыехалі змагацца ў сярэднявечнай ваеннай зброі. Ваяр з Беластока расказваў сабраным як выконваліся мячы, шчыты і паасобныя дэталі даўняй вопраткі ўсходніх славян. Прыехалі таксама ваяры са Шчэціна і Познані. Шкада, што не прыязджаюць у Збуч ваяры з Беларусі.

— Ваяры ў Беларусі таксама добра арганізаваныя і мы нават раней мелі нагоду супольна выступаць перад вялікай публікай, — заявіў ваяр з каманды «Вінлянд» з Беластока.

— На юбілейнае мерапрыемства мы падрыхтавалі больш прапаноў, як з ухілам на гісторыю, так і тых, што дазваляюць тут добра адпачыць. Напрыклад гміны, якія тут прамуюцца, даюць бясплатна пакаштаваць мясцовае харчаванне. Аб'яднанне старажытнікаў з Варшавы таксама падрыхтавала многа прапаноў, — сказаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк.

З ліку прапаноў гэтага аб'яднання найбольш спадабаліся мне старадаўнія аздабленні і заняткі для дзетак. Дзеткі перш за ўсё гулялі ў гарадку для наймалодшых. Цікавымі атрымаліся таксама майстар-класы па лепцы з гліны,



Публіка цікавілася кавальскімі вырабамі з даўняга мінулага і больш сучаснага перыяду



Дзеткі малявалі шчыты з рознымі гербамі

віцэ-маршалак нашага ваяводства Валянцін Карыцкі і дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоль Вап.

— Дзесяць гадоў назад не ўсе былі пераканаsuccessfully, што нам удасца паспяхова наладзіць археалагічны фэст. Цяпер разрастаецца ён з году ў год і маёй марай з'яўляецца рэканструяваць гарадзішча. Я веру, што гэта ўдасца нам здзейсніць, карыстаючыся еўрасаюзнымі сродкамі, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які з нагоды юбілейнага мерапрыемства ўручыў памятныя медалі асобам, якія дапамагалі арганізаваць фэст.

Паводле даследаванняў збуцкае гарадзішча магло ўзнікнуць у канцы IX або ў X стагоддзі, пасля міграцыі сюды насельніцтва, у асноўным з усходняга напрамку. Мела яно абарончы характар і хутчэй за ўсё мясцовыя людзі хаваліся тут у час варожых наездаў. Раскопкі на гарадзішчы побач Збуча, якое мясцовыя людзі называюць «Вал», праводзіў Дар'юш Краснадэмбскі, археолаг стагоддзяў. У час раскопак Дар'юш Краснадэмбскі знайшоў таксама цікавае аздабленне — засцежку. Мяркуе ён, што яна можа выводзіцца нават з перыяду рымскага панавання і лічыць, што непадалёк ад Збуча мог існаваць могільнік рымскага перыяду. Будаўнікі брамы гарадзішча маглі прынесці засцежку менавіта з гэтага могільніка. Наладжана ўжо сцяжынка археалагічнай адукацыі, што вядзе з-пад Збуча праз Койлы, Курашава і даходзіць у Камень, бо каля гэтых сёл знаходзяцца даўнія могільнікі і курганы.

— Міла тут быць, файна тут быць. У Чыжоўскай і Арлянскай гмінах жывуць беларусы і заадно праваслаўныя вернікі. Нашыя гміны маюць многа супольнага і супрацоўнічаюць з сабой, — пахваліў перад публікай мерапрыемства і выявіў надзею на далейшае супрацоўніцтва войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк.

Археалагічныя фэсты заўсёды вылучаліся разнароднай і цікавай праграмай, з Махнатага, «Рэха пушчы» і моладзь са Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, а з Гарадоцкай гміны прыехалі «Расспяваны Гарадок» і «Калінка». Выступілі таксама «Струмок» з Дубіч-Царкоўных і «Гармонь» з Ласінкі. Пасля перапынкаў спявалі «Арляне», «Вервачкі» і «Малінкі» з Арлянскай гміны, а ў канцы мерапрыемства запрэзентаваліся калектывы «Метро» з Гайнаўкі і «Арт-Пронар» з Нарвы. Сабраныя маглі таксама паслухаць выступы двух моладзевых калектываў з Бельска-Падляшскага — «Kodex» і «Destine&Nice».

— Цікава тут. З лука можна пастраляць і пагладзець як калісь жылося, — заявіў мужчына сярэдняга ўзросту.

Старэйшы жыхар навакольнага сяла размаўляў з кавалём пра ўдала зробленыя матычкі і іншыя жалезныя прылады працы, якія рабілі ў мінулым. Каваль працаваў на прыладах, якімі карысталіся яшчэ ў нашых сёлах гадоў трыццаць-сорак таму назад. Побач малады мужчына, пераапрануты ў сярэднявеч-

маляванні каляровымі фарбамі шчытоў і пісанні гусіным пяром.

— Мае дзеткі проста захоплены прапановамі для іх, — заявіў наш беларускі гісторык Славамір Іванюк, які station наўча ацаніў увесь фэст.

Удзельнікі фэсту наведвалі пункты продажу напіткаў і харчавання, жанчыны найбольш ахвотна заходзілі ў палаткі, дзе прадаваліся сувеніры і рукадзелле. Людзі куплялі таксама мёд, каўбасу і свой хлеб. Аднак найбольш людзей шпацыравала побач палатак, дзе прэзентаваліся вопратка рыцараў, іх жонак, сярэднявечная зброя і заняткі, а таксама стравы старажытнай кухні і вырабы, стылізаваныя на сярэднявечныя. Можна было таксама патрымаць у руках меч падобны на сярэднявечны ці пагладзіць каня. Традыцыйна вельмі вялікае зацікаўленне выклікалі змаганні рыцараў і выступы коннікаў. Крэпкія мужчыны кідалі на адлегласць хамутом. Дзеткі глядзелі яшчэ дэманстрацыю тэхнікі пажарнікаў і пагранічнікаў.

## Конкурс КРУС вырашаны

У мінулым годзе КРУС аб'явіў у Кляшчэлеўскай гміне конкурс „Бяспечная сельская гаспадарка". Заявы падало шэсць гаспадарак. Мэтай конкурсу было арганізаванне бяспечнай працы ў хатняй гаспадарцы. Лічылася таксама эстэтыка так гаспадарчых будынкаў, як і жылога памяшкання. Кожны з удзельнікаў прад'явіў у пісьмовай заяве, што мае паправіць у гаспадарцы дзеля бяспекі і эстэтыкі, напрыклад: абеспячэнне маёмасці ў супрацьпажарныя прылады, стварэнне бяспечных даязных дарог для сельскагаспадарчых машын, прахадных дарог для жывёлы, належнае абеспячэнне сельскагаспадарчых машын перад выпадкамі ў час працы і г.д. Удзельнікі конкурсу атрымалі адпаведныя карты, на якіх рабілі запіскі з выканання задання. Затым камісія правярала. І маем ужо вынік. Лаўрэатам конкурсу „Бяспечная сельская гаспадарка" ў Кляшчэлеўскай гміне сталі спадарства Галіна і Януш Сарачынскія з Кляшчэляў. Другое месца заняла гаспадарка Іаланты і Міраслава Зубікаў з Сакоў, затым адпаведна сярод лаўрэатаў апынуліся: Кшыштаф Пюркоўскі з Грузкі, Ірэна Яўдосюк з Дабрывады, Івона і Міраслаў Ліпінскія ды Барбара і Міраслаў Нэстэрукі з Рэпчычаў. Лаўрэаты І — ІІ месца атрымалі ціскавую мыйку, дзве чарговыя ўзнагароды гэта электрычныя адкруткі, апошнія дзве — электрычныя чайнікі. Вынікі конкурсу былі аб'яўлены на гмінных дажынках 2 верасня. Узнагароды ўручаў кіраўнік КРУС у Гайнаўцы Міраслаў Раманюк. Арганізатар конкурсу як і бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч павіншавалі лаўрэатаў узнагарод і пажадалі далейшых поспехаў у карысць бяспечнай сельскагаспадарчай працы.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Засохлыя дрэвы...

**...** стаяць пры вуліцах у Беластоку. Нават у цэнтры горада. Небяспечна хадзіць пад імі тады, калі дзьме вецер. Зараз тры сухія дрэвы (яны без лістоўя) знаходзяцца ў пачатку вуліцы Сянкевіча. Пад адным з іх зрабілі прыгожую лавачку. А тут жа з верхавіны падаюць сухія галінкі. Сухія дрэвы ёсць ля скрыжавання вуліц Бялуўны і Заменгофа, ля скрыжавання вуліц Лінярскага, Мальмеда і Ліпавай ды ля скрыжавання вуліц Браніцкага і Электрычнай.

Пры вуліцы Заменгофа стаяць тры засохлыя ліпавыя дрэвы ды пры вуліцай Мальмеда, 27 Ліпеня, Васількаўскай (перад вялікай крамай „Вырода") і ў канцы вуліцы Баранавіцкай — па адным.

Сухія дрэвы неабходна ссячы. Будуць дровы на зіму.

## Аднавілі маставую

У канцы жніўня гэтага года Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы акуратна аднавіла асфальтавую маставую на вуліцы ў вёсцы Новае Ляўкова (Нараўчанская гміна). Гэтая вуліца — адрэзак павятовай дарогі.

З пастулатам рамонту ўхабістай маставой у Новым Ляўкове выступіў солтыс на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы 28 сакавіка г.г. Адказ на яго прапанову загадчыца ППД інж. Крыстына Мішчук выслала 26 красавіка г.г. Рамонт запланавалі ў чэрвені-ліпені. У пачатку жніўня солтыс паехаў у справе рамонту да намесніка старасты Гайнаўскага павета Андрэя Скепкі.

Ішоў жнівень і ў канцы гэтага месяца дарожная служба ўзялася за мадэрнізацыю маставой на вуліцы. Зараз яна роўная як стол. Новаляўкоўскі солтыс і вяскоўцы чакалі рамонту пяць месяцаў, але ўсё ж дачакаліся! **(яц)**




Перад працаўнікамі службы здароўя станавіліся чэргі, каб, між іншым, праверыць крывяны ціск і ўзровень цукру

# Фэст здароўя

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Калі ў маладых добрае здароўе, яны наогул не думаюць, што яно можа раптоўна пагоршыцца. Мала хто размышляе, што менавіта ён можа трапіць у нейкую аварыю і стаць інвалідам на ўсё жыццё. Аднак у сённяшніх рэаліях, калі штораз больш машын ездзіць па дарогах, дарожна-транспартныя аварыі здараюцца штораз часцей і штораз больш асоб застаецца калекамі або нават гіне. Людзі таксама змагаюцца з рознымі хваробамі, што, між іншым, з'яўляецца паслядоўнасцю забруджання акружаючага нас асяроддзя. Наогул карыстаемся харчаваннем, якое вырошчваецца з прымяненнем мінеральных угнаенняў і хімікатаў, не гаворачы ўжо пра яго генетычную мадыфікацыю. Акружаны мы шматлікімі пластмасавымі прадуктамі і штодзень карыстаемся электронікай, што таксама мае адмоўнае ўздзеянне на нашае здароўе. Апошнім часам у нашых беларускамоўных медыях многа пішам пра беларускія фэсты і дажынкавыя мерапрыемствы. На гэты раз наведаў я фэст прысвечаны здароўю, які 9 верасня ў Гайнаўцы праходзіў пад лозунгам «У здаровым целе здаровы дух», якому спадарожнічалі беларускія песні і танцы.

Фэст наладзіла гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія, якое раней арганізавала інтэграцыйныя сустрэчы лекараў і астатніх працаўнікоў службы здароўя. Цяпер праваслаўнае брацтва пры актыўным удзеле гайнаўскай службы аховы здароўя выйшла да жыхароў Гайнаўшчыны і турыстаў, якія ў пачатку верасня гасцявалі ў Гайнаўцы, з прапановай праверыць стан здароўя.

— Мы, як гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія хацелі адкрыць у нашым горадзе праваслаўны садзік. Калі ў гэтым годзе прадшколле не атрымалася, рашыліся арганізаваць нешта новае. Я запрапанавала наладзіць фэст здароўя, які цікава наведаць людзям розных узростаў. Апрача прапагандавання здаровага ладу жыцця рашыліся мы запрапанаваць нешта для душы, перш за ўсё нашую беларускую музыку, — сказала каардынатар мерапрыемства, гайнаўская братчыца Ева Рыгаровіч, па прафесіі медсястра. — Для сарганізавання першага фэсту здароўя, які намераваем ладзіць таксама ў наступных гадах, выкарысталі мы перш за ўсё свае грошы і сродкі, перададзеныя гарадскімі ўладамі. Мы рады, што бясплатна згадзіліся выступіць мастацкія калектывы, што нашу ініцыятыву падтрымалі і прынялі ўдзел у фэсце ўстановы, якія займаюцца аховай здароўя і прапагандаваннем задаровага ладу жыцця. Шкада толькі, што не даехалі ратаўнікі хуткай дапамогі з Беластока, якія мелі паказаць як ратаваць людзей, пацярпеўшых у дарожна-транспартных здарэннях, або тых, якія нечакана заслабнуць.

У час фэсту выстраілася чарга да палаткі, у якой медсёстры Непублічнай установы аховы здароўя «Гаймед» з Гайнаўкі правяралі крывяны ціск, важылі людзей і, супастаўляючы іх вагу да ўзросту інфармавалі, ці трэба ім паправіцца ці пахудзець.

— Ой, трэба мне пахудзець, — заявіла гайнаўская настаўніца пасля праверкі вагі.

Побач працаўнікі Самастойнай публічнай установы аховы здароўя мералі ўзровень цукру ў крыві. Да іх таксама стаялі ў чарзе жанчыны і мужчыны, якія рашыліся бясплатна даведацца ці не пагражае ім дыябет. Даўжэй затрымаўся я ў месцы, дзе паказвалі, як выконваць рэабілітацыйную гімнастыку і праводзілі апытанне, між іншым, наконт фізічнай актыўнасці гайнавян.

— З актыўнасцю гайнавян бывае пароснаму. Маладыя больш актыўныя, але ў апытанні пішуць, што зімой не хапае ім пастаяннага катка. Старэйшыя заяўляюць, што ходзяць на прагулкі або катаюцца на веласіпедах. Гайнавяне з-за хвароб пазваночніка і суставаў рашаюцца на гімнастыку дома, на басейне або ў рэабілітацыйных цэнтрах, такіх як нашая непублічная ўстанова, — гаварыла Катажына Куклінская, уласніца Непублічнай установы аховы здароўя «Кінетыка» з Гайнаўкі, якая дзейнічае з красавіка 2011 года і прапануе рэабілітацыю як у сябе, так і ў дамах пацыентаў. Пад



гэтай палаткай прэзентаваліся таксама рэкламныя матэрыялы Воднага парку з Гайнаўкі, які прапануе рэкрэацыйна карыстацца сваімі басейнамі і воднымі рэабілітацыйнымі прыладамі. Праверку зубоў і стаматалагічныя парады прапанавала Анна Мароз з Варшавы, якая па суботах лечыць зубы таксама ў Гайнаўцы, у бацькоўскай хаце.

— Фэст здароўя патрэбны ў Гайнаўцы, бо прапагандуе здаровы лад жыцця і вучыць, як ахоўваць сваё здароўе. У час нашага мерапрыемства людзі маюць магчымасць цікава правесці час, а мы вяртаемся таксама да нашых традыцый і прапагандуем родную музыку і культуру, — гаварыў Адам Чурак, старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва.

З беларускімі песнямі цікава выступілі гайнаўскі беларускі калектыў «Рэха пушчы» і бельскі беларускі калектыў «Васілёчкі», які запрэзентаваўся двойчы ў розных уборах.

— Зараз мы багатыя ў касцюмы, — сказалі спевакі з Бельска-Падляшскага.

З беларускімі творамі запрэзентаваліся таксама дзяўчаты з беластоцкага гурту «Казка». Розныя песні спявалі дзяўчаты са Студыі песні Гайнаўскага дома культуры і Клаўдзія Галінская з Непублічнай школы св.св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Вялікае зацікаўленне выклікаў выступ гайнаўскіх дзюдаістаў са Спартыўнага клуба «Зубр», якіх апекуном з'яўляецца Якуб Астапчук, вядомы ў Польшчы дзюдаіст родам з Чыжоў. Маладыя бацькі прыйшлі з дзеткамі, якім быў арганізаваны гарадок гульняў. Дзяўчаткі і хлопчкі гулялі на трампліне, з'язджалі з надзіманага замка, ці качаліся ў вялікім шары. Вера Петручук прапанавала пакаштаваць яе экалагічнае харчаванне. Удзельнікі фэсту вельмі хутка расхапілі смачную ежу. Печаны на заквасцы, па традыцыйнай рэцэптуры, цёмны хлеб ляжаў даўжэй, бо яго ўласнік Уладзімір Мяльніцкі, што прыехаў з Радуніна (каля Гарадка) прадаваў яго, а не раздаваў, хаця спачатку па кусочку даваў паспрабаваць смак свайго вырабу.

— У маім хлебе свая энергія і асаблівы смак. Ён зроблены на натуральных кампанентах і яго спажыванне мае станоўчае ўздзеянне на здароўе чалавека, — гаварыў Уладзімір Мяльніцкі, які прапануе вяртацца да традыцыйнай хатняй выпечкі хлеба. За яго плячамі быў відаць вялікі лозунг на беларускай мове «Хлеб ды вада — няма голада...».

У час фэсту можна было стаць донарам — аддаць у амбулансе кроў для пералівання хворым, і наведаць палатку Заняткаў па працатэрапіі, удзельнікі якіх выканалі прыгожыя мастацкія працы і прадавалі іх, каб зарабіць сродкі на дадатковую дзейнасць. Прадаваліся таксама выданні гайнаўскага Праваслаўнага выдавецтва «Братчык», якое выдавала кніжкі і на беларускай мове. Да канца фэсту са сцэны амфітэатра гучалі беларускія песні. Некаторыя танцавалі пад музыку калектыву «Ас» з Беластока, які выступіў апошнім.

У выпадку фэсту здароўя «У здаровым целе здаровы дух» хрысціянская традыцыя дапамогі іншым людзям была спалучана з прапагандаваннем беларускай песні, хаця гучалі паасобныя творы на іншых мовах. Гэта цікавая ідэя і калі, так як гавораць арганізатары, будзе працягвацца, павінна ў наступных гадах здабыць яшчэ большае прызнанне гайнавян, бо сёлета яшчэ не ўсе зацікаўленыя ведалі пра новае мерапрыемства.



Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Беларускія дажынкі ў Рыбалах

Хаця ў Рыбалах практычна няма ўжо земляробаў, але ж якраз тут згодна з дваццацігадовай традыцыяй адбыліся гмінныя беларускія дажынкі. Не здзіўляе, што якраз тут, таму што Рыбалы гэта апора беларушчыны ў Заблудаўскай гміне. У самім Заблудаве тутэйшыя беларусы адсоўваюцца на абочыну. Цэцылія Галіцкая, дырэктарка Гарадскога асяродка анімацыі культуры ў Заблудаве сказала:

— Да гэтага часу ніхто не заявіўся, каб мы сарганізавалі нейкія беларускія заняткі. Відаць, нашай прапановы хапае. Аднак пры найбольшай нашай імпрэзе „Днях народзінаў Заблудава" заўсёды мæецца ў нас прапанова накіраваная тым, хто захоўвае беларускую традыцыю.

У час свята ў Рыбалах выступалі беларускія калектывы з мясцовага Вясковага дома культуры і ваколіц, з Беластока і Гродна. Была выстаўка ўраджаю і конкурсы. Згодна з абычаем, дажынкі пачаліся з багаслужбы ў царкве святых Кузьмы і Дзям'яна ды малебна пры Крыжах у калёніі Рыбалы.

— Дажынкі ў Рыбалах адбываюцца ўжо ад 1992 года і заўжды хапае публікі, — прыгадвае Лідзія Мартынюк, дырэктарка ВДК. — Штодзень маем у доме культуры два тэатры: лялечны і жывога плана. Дзеці займаюцца танцамі і спевамі. Дзейнічаюць таксама калектывы дарослых. Агульна ў нас тры вакальныя калектывы. Цяпер будзем рыхтавацца да агляду абрадавых калектываў, арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

Сярод выступаючых прэзентаваўся калектыў „Паванька" якраз з мясцовага Вясковага дома культуры. Яго сяброўка Дарота Леснік распавядала „Ніве":

— Наш калектыў заснаваны чатыры гады таму. Строі атрымалі мы ад БГКТ. Нашымі дасягненнямі з'яўляюцца шматлікія ўзнагароды на Фестывалі беларускай песні. На папярэднім занялі мы другое месца і трапілі на гала-канцэрт. Рыхтуемся да наступнага. А так прымаем удзел у фэстах. Спяваем у большасці фальклорныя апрацаваныя песні.

— Якія песні? — дапытваліся мы.

— Найчасцей пра жыццё.

Галена Датчук з „Навіны" (Машчона-Каралеўская) у сваю чаргу прызналася нам:

— Наш калектыў спявае ўжо сёмы год. Спяваем песні беларускія, польскія, украінскія і на сваёй гаворцы. У нашым калектыве — восем жанчын і акампаніятар-акардэаніст. Ездзім усюды, куды нас запрашаюць.

Іншы дзявочы калектыў, які запрэзентаваўся на свяце — „Світанак" — дзейнічае ад 2008 года. Яго кіраўнік Эва Гняздоўская сама запраектавала строі:

— Маем новыя касцюмы. Папярэднія сукенкі былі льняныя, ды мала сцэнічныя. Заказалі мы іх у Мінску паводле ўласнага праекта і за ўласныя грошыкі. Мы з сяброўкамі хацелі, каб яны былі стройныя, крыху народныя і каб мы ў іх адчувалі сябе не як бабулі, але і не як падлеткі. У рэпертуары маем апрацаваны фальклор у сучаснай аранжыроўцы, ды не спяваем дажынкавых песень.

Хатні хлеб на дажынкі ў Рыбалах спяклі Валянціна Антанюк з Паўлаў са сваёй нявесткай Аннай. Анна і яе муж Павел былі сёлета старостамі дажынак. Анна:

— Як на сённяшні час, наша гаспадарка маленькая. Раз добра, іншы раз — горш. Як кажуць старэйшыя людзі: „Бог даў, Бог забраў". Аднак, у выніку атрымліваецца ў нас добра.

Павел:

— Агулам у нас каля ста гектараў. У большасці гэта малочная гаспадарка з дваццаццю чатырма каровамі. На продаж малака няма чаго наракаць. Прадаем яго ў малачарню ў Бельску-Падляшскім.

Анна:

— Калі б кінуць тую цагліну на талерку, тады сучасны чалавек зразумеў бы, якой важнай і нялёгкай з'яўляецца праца сялян. Гэта ж земляробы робяць тое што маем у крамах. Каб узнік той сырок, спачатку мусіць быць тое малачко. Усё пачынаецца ад земляробаў, а ў цяперашняй дзяржаве нас зусім не шануюць.

Спадарыня Аня не хацела нам рассакрэціць рэцэпт смачнага дажынкавага хлеба:

— Дажынкавы хлеб зрабіла мая свякруха. Я ёй толькі дапамагала, прыглядалася. Напэўна трэба шмат любові і шчопцю шчасця, а рэшта гэта таямніца!

З Гродна на рыбалаўскія дажынкі прыехаў вядомы ўжо тут з двайнога выступу „Гасцінец". У той самы дзень (16 верасня) ансамбль выступіў у Гайнаўцы і Збучы. Яго кіраўнік Аркадзь Карповіч:

— Усё пачалося амаль дваццаць гадоў таму. Надалей стараемся аднаўляць рэпертуар. У музычнай групе маем флейту, дзве скрыпкі, цымбалы, кантрабас, баян, бубен. У дзевяноста працэнтах выконваем беларускія песні. Старасмся браць іх з нашага рэгіёна. Ужо ў нас не працуе, але шмат песень падабрала нам адна са спявачак, хадзячая энцыклапедыя беларускай песні. Брала іх ад мамы і бабулі.



„Навіна" з Машчоны-Каралеўскай

Як мінуў вясенне-летні сялянскі сезон у гміне спыталіся мы ў бурмістра Заблудава Вальдэмара Люлевіча:

— Апрача таго, што ішоў дождж як усюды, і вельмі дзьмула, як усюды, гэты год мінуў вельмі добра. Прыгожая садавіна, многа гароднiны, а грыбоў у лясах хоць касі, і са збожжам таксама няблага. Шчасце, што ўсё добра. Дажынкі ў Рыбалах гэта ўжо наша гмінная традыцыя. Гэта нагода для сустрэч суседзяў абедзвюх канфесій. Прыязджаюць сюды таксама людзі з іншых вёсак і з Беластока.

Настаяцель прыхода ў Рыбалах а. Рыгор Сасна дзяліўся з намі дажынкавымі роздумамі:

— Надалей стараюся, каб гэта малітва давала сэнс дажынкам. Малітва прыгадвае адкуль усё гэта бярэцца і каму дзякаваць за сонца, каб у пару свяціла, ці за дажджы, каб у пару лілі, ці вятры, якія таксама патрэбныя. Вышэйшая сіла спрычыняецца да таго, што наш труд благаслаўіцца. Пагрозлівыя ўраганы, паводкі неяк на шчасце нас абмінаюць. Гэты закутак неяк там угары цэніцца! Вёска гэта земляробства, ды сёння па вёсках засталіся „халупа-дачы", земляробства пакладзена на плечы. Слава Богу, прырода не пераносіць вакууму. Змяняецца значэнне. У маім прыходзе ёсць двух-трох земляробаў, якія змогуць забяспечыць тое, што калісь мусіла зрабіць чатырохсот гаспадароў. Вёска перастаўляецца на зусім іншыя пуці. Гэтая парэштка вёскі, на шчасце, працягвае тое, што для яе самае каштоўнае.

Дажынкі ў Рыбалах адбыліся на пляцы перад Музеем матэрыяльнай культуры „Бацькаўшчына", які зняшчаецца ў былой пачатковай школе. Узнік ён дзякуючы стараннем айца Рыгора Сасны і матушкі Антаніны Троц-Сасны. Сабрана ў ім каля дзвюх тысяч экспанатаў, звязаных м.інш. са штодзённым жыццём мясцовых сялян, якія іх ахвяравалі ў музей. Ёсць тут між іншым бібліятэчны куточак „На беларускай мове".

— Я прасіў людзей, і аддавалі што маглі. Шмат экспанатаў зроблены ўручную. Якое майстэрства! Гэта вельмі каштоўнае, што гэты аб'ект надалей жыве, — праводзіў нас па музеі ў час рыбалаўскага свята а. Рыгор Сасна.

Рашэнне аб ліквідацыі мясцовай школы было прынята ў 2007/2008 школьным годзе. У 2009 г. Гмінная ўправа ў Заблудаве перадала будынак разам з пляцом праваслаўнаму прыходу. Айцец Рыгор:

— Былі дзеці і датацыя. Раней тут вучылася 35 дзяцей. Чатыры гады таму ўжо толькі сямёра, а настаўнікаў было трох, і школы не ўдалося ўтрымаць. Дзеці даязджаюць цяпер у школу ў Заблудаве.

З нашых размоў вынікае, што ўдалося б у заблудаўскай школе сабраць большую групу дзяцей, якая магла б вывучаць беларускую мову. Ніхто, аднак, не выступае з такой ініцыятывай: ані дырэкцыя школы, ані бацькі.

Пры нагодзе гмінных беларускіх дажынак спыталіся мы ў Цэцыліі Галіцкай, ці яе Асяродак анімацыі культуры сарганізуе нейкія заняткі накіраваныя непасрэдна тутэйшым беларусам:

— Генеральна засяроджваемся на Рыбалах і тут, у гэтым абсягу, наша дзейнасць вядзецца, бо тут у нашай гміне гуртуецца насельніцтва, якое размаўляе па-беларуску і якое хоча развіваць сваю традыцыю. Тут пані Лідзія Мартынюк вядзе беларускія калектывы: музычныя і тэатральныя, прытым з вялікімі поспехамі, ад вылучэнняў да другіх і першых прызоў. Наша двухмоўная і двухканфесійная гміна мае толькі адну ўстанову, якая вядзе беларускую дзейнасць.

Калі мы вярталіся з Рыбалаў у Беласток, шафёр сямятыцкага аўтобуса павольна ехаў праз вёску. Прыкмеціў:

— Гэта, а езджу я на гэтым шляху шмат гадоў, адзіная такая вёска, дзе людзі заўжды сядзяць перад дамамі і прадаюць памідоры, яйкі... Час ад часу кошыкі ці венікі. І нават калі прадаўцоў не відаць, тавар стаіць!



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Фота Ганны Кандрацюк

4 клас з настаўнікамі Валяй Бабулевіч і Андрэем Марозам

# У інтэграцыйным класе

— Як думаеце — чаму сонечныя, цёплы дні, называем *бабіным летам?*

— Бо тады бабулі ткуць ручнікі і спадніцы з доўгага белага павуціння, — кажуць хлопцы з чацвёртага класа...

Цудоўна! Ніхто не прыдумае цікавей за дзяцей.

Сустрэчу ў інтэграцыйным чацвёртым класе мы пачалі з размовы пра цёплыя сонечныя дні, якія ўспыхаюць сярод халоднай, даждлівай восені. У Паўночнай Амерыцы называюць іх „індзейскім летам" і яны спалучаны з чырвоным колерам. Чаму залаты восенькі час у нас называюць *бабіным летам?* Якраз тады найбольш работы для гаспадынек. Трэба выкапаць з агарода буракі, моркву, пятрушку, сельдэрэй, часначок, бручку, пазбіраць фасолю, капусту, бульбу, сланечнікі і арэхі...

— А я з бабуляй разам гатуем фасольку, — кажа Рафал Шэўчык, — і пячэм разам піражкі. У хаце жартуюць, што буду рэстаратарам. Але я хіба да гэтага *не надаюся!?*

Рафал новы ў класе. Беларуская мова наклікае яму вобраз любімай бабулькі, якая жыве ў вёсцы Гусакі. Наш сябра дапамагае бабулі не толькі варыць і пячы, ён умее даіць карову!

Яшчэ на пачатку сустрэчы нашы сябры заявілі, што ім падабаецца хадзіць у школу, бо тут можна гуляць на калідорах *у бэрка.* Цяжка развітацца з канікуламі, таму ў першыя дні вучобы дзяўчаткі прыносяць з сабой лялькі. Цікава пагаварыць пра шырокі свет і пра іншых людзей. Вось, у адзін момант, дзеці спыталіся: *А чаму, калі хто прыязджае з Беларусі, не ўмее гаварыць па-польску?* Адказ на гэтае пытанне мы спрабавалі знайсці разам. Тыя што выязджалі за мяжу ведаюць, што ў розных краінах гавораць на сваіх мовах. Па-польску цяжка дагаварыцца ў Іспаніі ці ў Нямеччыне. Для лепшага паразумення людзі вывучаюць міжнародныя мовы, першае месца займае тут англійская мова.

— А мая вёска падпісана па-польску і па-беларуску, — заўяляе Каміль з першай парты. Хлапец родам з вёскі Спічкі, што ў Арлянскай гміне.

— А ведаеш чаму?

— Бо старэйшыя людзі размаўляюць па-беларуску, — думае ўголас хлапчук, — і таму што яны беларусы...

Далей нашы сябры дайшлі да вываду, што яны таксама беларусы, бо вывучаюць беларускую мову ў школе. У час візіту мы даведаліся пра вялікі поспех „тройкі" ў Італіі. Якраз вярнуўся з міжнароднага, моладзевага фестывалю гурт „Капрыс". Дзяўчаты заваявалі там першае месца! Спявалі, вядома, беларускія песні...

Што яшчэ хочацца сказаць пра апошнюю сустрэчу? Увага і цяжкая праца, якую прысвячаюць настаўнікі дзецям інтэграцыйных класаў, не марнуецца. Дзеці тут больш адкрытыя, ставяць пытанні і прыдумоўваюць каларытныя адказы і гісторыі. А галоўнае — яны самі адчуваюць сябе свабодна і роўна з іншымі. Такія класы — вялікі плюс бельскай беларускай „тройкі" і нашага асяроддзя.

ЗОРКА

# Конкурс пра восень (28)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Які колер спалучаем з беларускай восенню?**
а) чырвоны,
б) залаты,
в) фіялетавы.

**2. Які звер выступае ў гербе горада Бельск?**
а) карова,
б) зубр,
в) тур.

**3. Хто з паэтаў-белавежцаў з'яўляецца аўтарам прыгожага верша „Верасы"?**
а) Міхась Андрасюк,
б) Уладзімір Гайдук,
в) Алена Анішэўская.

**4. У якой школе на Беласточчыне дзейнічае беларускі музычны гурт „Капрыс"?**
а) у Нарве,
б) у Міхалове,
в) у Бельску-Падляшскім (у Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча).

Адказы дасылайце да 10 кастрычніка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні. Адказ на конкурс н-р 25: У час Купалля нарадзіўся Янка Купала (Іван Луцэвіч); псеўданім Івана Луцэвіча — Янка Купала ўзяўся ад народнага свята Купалля; у бягучым годзе адзначаем 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа; сімвалам Купалля з'яўляецца папараць-кветка. Узнагароды — **кашулькі з лагатыпам „Нівы"** выйгралі: **Вікторыя Патонец, Іза Бароўская, Караліна Каравай** з Нараўкі, **Войтэк Куптэль** з Арэшкава. Віншуем!

**ЗОРКА**




Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Вершы Віктара Шведа

## Залатая рыбка

Маці пытае Мікалая:
— Дзе твая рыбка залатая?
— Рыбку нясу ў сваёй кішэні.
Бачу тваё, мама, здзіўленне.

Гду я з рыбкаю на шпацыр,
Паходзім па шырокім пляцы,
Пабудзем на вясеннім ветры,
Свежым падыхаем паветрам.

## Парфума таты

Прастудзілася маці.
Суседка раіць, у хаце
Глынуць гарэлкі кілішак.
Тут усыпляць трэба Мішу.

Маці стаіць у куточку,
Прад сном цалуе сыночка.
— Ты, мама, — сынок прыдумаў, —
Бярэш татулькі парфуму.

Фота Ганны Кандрацюк


З Адамам Харкевічам
у яго школе ў Нараўцы

# Больш стыпендыяў для „тройкі”!

З пачаткам новага навучальнага 2012/2013 года мяняюцца ў Бельску-Падляшскім стыпендыяльныя прынцыпы. Да гэтай пары горад размяркоўваў пароўну стыпендыі на ўсе школы.

— Адна наша вучаніца перайшла ў іншую школу, — кажа Яўгенія Васілюк, дырэктар бельскай „тройкі”, — бо там яна мела шанц атрымаць стыпендыю за вынікі ў навуцы. У нас заўсёды многа лаўрэатаў прадметных конкурсаў і вучняў з высокай сярэдняй і таму не ўсе маглі атрымаць стыпендыю з-за назначанага ліміту. Шмат выдатнікаў аставалася без належнай ім узнагароды.

З верасня г.г. навуковыя стыпендыі атрымаюць вучні з найлепшымі вынікамі ў вучобе. Змена напэўна спрацуе ў карысць вучняў з „тройкі”. Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Касцыцэвіча шмат разоў па ўзроўню навучання быў першым у горадзе і ваяводстве.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## Пункт — унук Пункста


http://euroradio.fm

Сяргей Пункт — моцна дасведчаны класікай, вырашыў заняцца авангардам. Свядома працуе ў нішавай прасторы, з амаль нулявым спадзяваннем на тысячную публіку. Затое займаецца тым, што яму важна: музычнымі эксперыментамі, словам, настроем, а ўсё гэта можна назваць канкрэтным пераказам. А што хоча перадаць сваёй публіцы? Каб разумела, што тэкст у музыцы важнейшы за рытм, які мае задачу ўвесці нас у транс. У трансе больш складана рэагаваць інтэлектуальна.

Сяргей Пункт гэта нестандартны і арыгінальны артыст. Запісаў дагэтуль чатыры студыйныя альбомы, а апошні «Внутреннее» нядаўна запісаны і зараз толькі вядзецца яго прамоцыя. Гэта напэўна нялёгкая творчасць. Гаворыцца, і сам Пункт прызнае, што ён — музыка плыні нігілістычнага джаза, які часцей за ўсё скарыстоўвае фартэпіяна. І тут добры момант, каб сказаць два словы наконт музычных каранёў Сяргея.

Ягоны дзед Рыгор Пункт гэта вядомы беларускі кампазітар, аўтар, між іншым, опер «Машэка» і «Свіцязянка». Дзед-кампазітар абавязвае. Таму Сяргей шмат часу ў дзяцінстве праводзіў у філармоніі. Можа гэтая колькасць класічных гукаў паўплывала на маладога Сяргея, які на пачатку сваёй дарогі сябраваў з бунтаўнічым панкам, а пасля дайшоў да эксперыментаў і джаза. Увогуле яго амбіцыяй з'яўляецца стварыць плынь, якая ўмела спалучала б панк з джазам. У Польшчы і на свеце такія спробы былі і думаю, што Сяргей такі варыянт сабе знойдзе, тым больш, што залежыць гэта ад ментальнай свабоды, а гэтай Пункту хапае.

Чытачам на Беласточчыне напэўна будзе цікава, што Сяргея Пункста будзе можна пабачыць у рамках фільмавага мерапрыемства «Camera!ta”, якое пройдзе 18-20 кастрычніка ў Падляшскай оперы і філармоніі. Тады Сяргей будзе прэзентаваць музыку да класікі беларускага нямога кіно ў рамках супольнага праекта пад загалоўкам «Немаўля» партала «Тузін Гітоў» і беластоцкай оперы. Пра згаданы праект неўзабаве распавяду!

i_basovka@o2.pl

Расціслаў ВАСЬКО
Тарнопаль

## Восень

Жоўты, чырвоны, аранжавы
І залаты дождж.
Не — гэта не дождж.
Гэта лісты, лісты, лісты...
Як іх многа, адкуль яны?
Вецер не спыняецца,
А лісцевы дождж
папраўляецца.
Сумна голым дрэвам,
І людзям таксама,
Якія праз вокны глядзяць
А даждж лісткоў
не могуць стрымаць.

## Жарт:-))))

*— Паўлік, чаму ты кожны дзень спазняешся ў школу? Няўжо ў вас няма будзільніка?*

*— Будзільнік ёсць, дык толькі ён звоніць, калі я сплю.*

Адам ХАРКЕВІЧ
Новая Лука

## Восень

Была вясна,
Прайшла вясна
І лета ўжо мінула,
Прыйшла цудоўная пара
І зямлю ахінула.
Размалявала цэлы свет
На розныя колеры,
Чырвона-жоўтыя сталі дрэвы
А залатыя зоры.
Пажоўкла нават і трава
Апусташэла поле
А свет шыкуецца да сну
Зімоваю парою.

# Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 35:
Фея, фанат, сук, вока, канцэрт, аўтар, ял, ранг. Фея, сокал, рукаў, кант, пан, цар, не, эра, абшар, Эта, стог.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Korytarz / Towar | | Panama / Wianek | | Róg | | | | Autobus / Jer | |
| | | | | | Prąd / Skrzydła | Lew | | | |
| Len / Winogrona | | | | | | Art | | | |
| | | | | | | | | | |
| Dom | | | | | | Aby | | | |
| | | | | | | | | | |
| Oka | | | Rzym | | | | As | | |

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Непадалёк Дубровы-Беластоцкай, быццам на ўсходнім прадмесці, ляжыць даволі вялікая вёска з прыгожай назвай Гарасімовічы. На самым яе ўскраю, напроціў трох вясковых крыжоў, стаіць традыцыйная, драўляная хата Паўла і Галіны Лазукоў. Хаця род абоіх сужонцаў выводзіцца менавіта з гэтага месца, іх жыццёвыя дарогі здаваліся быць вельмі аддаленымі і многа вады перaплыло ў загуменнай Сідры, пакуль знайшлі яны адзін аднаго ў гэтым свеце. Асаблівыя зменлівасці лёсу спаткалі спадарыню Галіну.



# Беларускае сэрца Дуброўшчыны

— Калісь, яшчэ малая была, — распавядае яна, — прыйшла я дахаты і пытаюся па дзіцячай цікавасці: „Папа, дзе вы мяне ўзялі?". А ён кажа: „У кошыку плыла. Я стаю на беразе Нёмана, чую, штосьці плача, гляджу: кошык плыве, я яго падцягнуў да сябе, а там ты была". Я нарадзілася ў 1958 годзе. У нас тады само наваднение праходзіла, Нёман моцна разліўся, а мама раджаць мяне пайшла. Так у Мастах я і паявілася на свет. Усе думаюць, што названне гэтага горада пайшло ад мастоў, так як у нас іх пяць на Нёмане. На самай справе яго будавалі на падбалочанай макрадзіне. Будаўнікі паўсюль лажылі маставыя, такія дошкі машчоныя — імі вуліцы выкладалі, ад гэтага і Масты ўзяліся. На свет прыйшла я там, але ўсе мае продкі жылі тут, на Дуброўшчыне. З Гарасімовічаў паходзіць мая баба, з суседняй вёскі Астрова выводзіцца мама, а папа таксама з недалёкіх Шастакоў — усе з аднаго прыхода. Мая сям'я пакінула родныя загоны пасля апошняй вайны. Яны можа і не пераехалі б на другі бок, але мамін тата быў хворы, дзве аперацыі перанёс, у хаце самыя дзеўкі — тры прыгажуні. У роднай вёсцы ўсё было спалена да кораня, адступаючыя перад саветамі немцы цэлую ваколіцу ў попел замянілі. Трэба было будавацца, не хапала мужчынскай сілы. За граніцай часовыя будынкі давалі, так яны ўзялі кароўку і кое-што тай паехалі. Пасялілі іх у Ражанцы каля Шчучына. Атрымалі палову хаты з адным пакоем, з вялікай-вялікай кухняй і сенцамі. У пакоі была падлога, а ў кухні ток. Дабавілі таксама вялікую стадолу і кусок зямлі. Пры хаце размяшчаўся вялікі сад. Да гэтай пары помню асаблівы смак каштэляў. Такіх яблык цяпер няма, жоўтыя, вялікія былі, як яны наспеюць, як разрэжаш — такая ясная сярэдзіна, сам мёд...

Усё роўна сумавалі па роднай вёсцы і блізкіх, якіх тут пакінулі. Бабка наша адна паехала, тут асталіся брат і сястра, другі брат у Пецярбургу падпалкоўнікам быў, яшчэ ў бежанства туды трапіў. Мама ўжо прыжылася там, ёй шаснаццаць гадоў было, калі выязджала. Мой тата выехаў з-за гэтага, што тут нагонку мелі на яго. Безупынна праследавалі, білі, жыць не давалі. Брат бацькі жыў у Гародні, і ён туды паехаў. Бацька запісаўся беларусам, таму пераехаць у родныя Шастакі было яму забаронена. Ажаніўшыся з мамай, прабаваў вяртацца — тут была яшчэ зямля, хата, але не ўпусцілі, сказалі, што „беларус павінен жыць у Беларусі". Ён тады на сястру перапісаў хату, зямлю і назаўсёды там астаўся. Майму Паўлу кажуць, што я — руская, дражняць „як там твая руска", руска ды руска, не гавораць „беларуска". Адзін чалавек раз заступіўся за яго сказаўшы: „Якая ж яна руска — яна тутэйша, толькі там зроблена".

Я вельмі любіла спяваць, усё жыццё займалася музыкай. Калі малая была, то з гармонікам на печку залазіла. Цягала абы цягаць, яшчэ тады не разумела. З дзяцінства спявала і праспявала сваё жыццё, праспявалася. Часам бывае так, што я баюся ўзяць і заспяваць ці пасмяяцца, бо штосьціка нядобра будзе адразу. Калі дзеўкай была, я на хары хадзіла, на танцавальныя кружкі, я заўсёды была вельмі саргaнізаванай. Закончыла музычную школу па баяне. Настаўнік упёр мяне ў гродзенскае музыкальнае вучылішча, а я хацела працаваць з дзецьмі ў прадшколлі. На экзамене не хапіла мне пару балаў на баян, таму вучыцель угаварываў паступаць на балалайку. Праўда, я не хацела, плакала, а ён мне ўсё-такі туды завёў. Там паглядзелі на мае рукі, і я засталася. Мой настаўнік з вучылішча — Нічыпарэнка — меў прынцып у кансерваторыю дзевак не браць, так я туды ўжо не папала. Мне захацелася сваёй сям'і. Я рашыла паступіць ва УВС — удачна выйсці замуж. Потым радзіліся сын, дачка і ўсё. У дваццаць шэсць гадоў памёр мой мужык, сама з маленькімі дзецьмі асталася, і пайшло-пайшло-паехала... Цяпер нават баюся паспяваць, каб біды не наклікаць. Павел не раз просіць „давай штонебудзь заспяваем", і суседка мая часта прыходзіць, таксама просіць заспяваць, а я не хачу, баюся...



Спадарыня Маня (справа) з сяброўкай

Аднак спадарыня Галіна не пабаялася прыняць актыўнага ўдзелу ў працэсе адраджэння беларускай песні ў родных Гарасімовічах. Менавіта дзякуючы яе намаганням у летняе свята вёскі прайшоў тут канцэрт крынскай „Зараніцы". Некалькі пакаленняў гарасімоўцаў сабралася вакол вогнішча, каб супольна адзначыць гэтую, як аказалася, вельмі важную дату. Найстарэйшыя жыхаркі пагадзіліся распавесці чытачам „Нівы" незвычайную гісторыю, звязаную з генезісам свята. Было гэта на пачатку верасня 1890 года. Тады цэлую вёску ахапіла эпідэмія халеры. Людзі масава паміралі. Жанчыны, старым беларускім звычаем, рашылі за адну ноч напрасці і выткаць доўгі ахвярны ручнік, які павесілі на вялікім крыжы, зробленым мясцовымі мужчынамі. Хвароба адразу спынілася. З той пары кожны год гарасімаўцы адзначаюць сваё вясковае свята.

Крыж гэты якраз стаяў у месцы сучасных крыжоў, напроціў хаты Паўла і Галіны Лазукоў. Паводле слоў спадара Паўла, пасярод двух праваслаўных крыжоў знаходзіўся таксама адзін каталіцкі. Яны стаялі пры колішняй дарозе ў Ячна, якую пазней крыху перасунулі, пакідаючы да сёння крыжы ўскосам да яе. Калі ў Ружанымстоку адкрылі каталіцкі прыход, лацінскі крыж павандраваў у касцёл. З другога боку хаты спадара Паўла ляжыць лес, у якім на грудзе даўным-даўно стаяла царква. Там калісь нанач коней на выпас вадзілі. Вакол груда плыве рэчка з мастом, які назывaлі Сінім. Гэтае месца запісалася ў памяці мясцовых як „цэрквішча". Драўляную царкву мелі перавозіць у вёску Грабяні. Там ужо спецыяльныя фундаменты вылілі.

— Адзін свяшчэннік мне гаварыў, — дадае спадар Павел, — што як перавозілі ікону Мацеры Божай, валы астанавіліся. На другі дзень падпраглі коней, але і яны не пайшлі. Адной дзяўчыне ноччу прысніўся сон, у якім паказалася Божая Маці гаворачы: „Здзесь маё месца, здзесь маё ўлюбёнае". Так царква замест у Грабянях апынулася ў Ячне.

Перанесеная драўляная царква прастаяла ўсе войны і толькі ў 1986 годзе пагльнуў яе пажар, якога прычыны да сёння застаюцца невядомымі. Як разбіралі стары фундамент згарэўшай царквы, знайшлі пліту з датай пабудовы і імем свяшчэнніка. Быў там таксама медальён з надпісам „У чэсць вяртання ўніятаў на праваслаўе".

— У вас паясы, — робіць заўвагу жанчынам з „Зараніцы" васьмідзесяцігадовы Лёня Піруга. — У нас таксама такія ёсць, бардовыя, толькі цяпер мы імі плён абвіваем на Зельну. І спадніцы маеце калісьнія. Мая жонка таксама ткала і вышывала, а мама не, таму што без рукі больш за дзевяноста гадоў пражыла. Калісь ткалі такія самадзелы як вашы, у Ружанасток на одпуст у іх хадзілі. Помню, што гэтыя спадніцы ззаду адставалі. Мой бацька казаў, што іх выраблялі яшчэ за царом.

Спадар Лёня і яго жонка Маня лічацца асабліва разумнымі і добрымі людзьмі ў вёсцы. Як кажа іх малодшая суседка, заўсёды памогуць. Едуць у Дуброву ці ў Ячна на службу, дык напхаюць цэлы самаход людзей, а як трэба, то і два курсы зробяць! Таму пра гісторыю Гарасімовічаў „Ніва" рашыла спытацца менавіта ў спадара Лёні.

— Калісь гэтая вёска належала двару Тымінскіх, — з ахвотай пачынае спадар Піруга. — Менавіта туды мой бацька хадзіў паншчыну адрабляць. Яна карацейшая і бяднейшая была, усё саломай накрывалі. Хаты густа стаялі. Так і на Сеўну яна загарэлася — паўгадзіны, і вёскі не стала; гэта было перад першай сусветнай вайной, у 1896 годзе. Потым хаты ставілі радзей, вёска расцягнулася. Да нядаўна працавала ў нас школа, якую пабудавалі ў пядзісятыя гады ў гонар Кунавіна, што пагіб тут ад кулямёта ў час другой сусветнай вайны. У школе паставілі яго гіпсавы бюст; не ведаю, ці яшчэ там ён ёсць, ці мо выкінулі. Раней школьнага будынка ў вёсцы не было, вучыліся па хатах. За немцам пані з двара Тымінская Галена патаемна вучыла тут пару дзяцей. Мой брат да яе хадзіў. За навуку плацілі найчасцей салам і мукой. Калі маёнтак распарцалявалі, то апынулася яна ў Шчучыне каля Ломжы. З сынам туды паехала. Сын ужо стары, я бачыў яго нядаўна — Бруна называўся. Працавала тут год ці два і савецкая школа, вучыў у ёй Курыловіч, які аж з-за Гродна сюды прыехаў. У час бежанства ўсе Піруты, і з нашай вёскі, і дзядзька з суседніх Галякоў, у Царыцын, пазнейшы Сталінград, паехалі. Яны там разам трымаліся. Майго бацькі швагер вучыцелем у Расеі рабіў. Пасля вяртання пісалі пісьмы сваім гаспадарам, з якімі там пражывалі, але адказу ніякага не было. Напэўна, Сталін усіх вывез і знішчыў таму, што ў іх зямлі многа было. От, свету пабачылі і назад у вёску вярнуліся. Я жыву ў хаце, якая яшчэ да бежанства была пастаўлена, у 1898 годзе, але яна з цэглы і вельмі добра трымаецца. Цэглу калісь прывозілі з Гродна, 25 вёрст, жалезным возам яе згэтуль звазілі. У нас тады ўсё да Гродна, Саколкі і Беластока ніхто не знаў. Да Беластока было цяжка дабрацца — гэта каштавала чатырнаццаць злотых. Трэба было спачатку на Гродна, потым з Гродна на Саколку і згэтуль — у Беласток. Для параўнання: паездка ў Гродна каштавала толькі два злоты. Многа бабаў і пехатой туды хадзіла з яйкамі і маслам. Мая мама не раз туды на нагах дабіралася, бо і два злоты цяжка было перад вайною здабыць. Як штось патрабавалі набыць, та ўсё да Гродна, і ў Дуброве жыдоўскія крамы былі, але ўсё даражэй прадавалася.

— У нашай вёсцы жывуць па палове праваслаўныя і каталікі, — дадае спадар Піруга. — Найбольш тут такіх прозвішчаў як Лазукі і Станіслаўчыкі, усе гаворым па-простy. Тут непадалёк вёска Крапіўна, то там з прыціскам гавораць. Я раз быў у Беластоку, зайшоў у склеп, а там калейка. Стаў я там каля парога і хтосьці чагосьці папытаўся, думаю якраз і з Крапіўнога, аглядаюся — а як жа! Яны ўсенькія, цэла вёска, ад малога такія з прыціскам. А згэтуль у Крапіўна толькі тры кіламетры. У Гарасімовічах гавораць як скрось — па-беларуску.

Пра Міхала Баброўскага шмат можна даведацца з адмысловых энцыклапедычных выданняў, шмат з інтэрнэту, аднак бадай найбольш змястоўна напісаў быў пра яго наш земляк пакойны Васіль Белаказовіч у 1958 годзе на старонках менавіта „Нівы”. Паколькі было гэта амаль паўстагоддзя таму, тады мяркую, што варта прывесці тут абшырныя вытрымкі тагачаснага — вельмі цікавага — артыкула Васіля Белаказовіча, нашага выдатнага земляка родам з бельскага Відава. Гэты артыкул знаёміць чытача не толькі з біяграфіяй выдатнага нашага вучонага, але і з колішнім асветным краявідам нашага старонне.



Будынак Духоўнай семінарыі ў Драгічыне, дзе ў 1774-1832 гг. была школа піяраў

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# З Воленскага прыхода (2)

Міхал Баброўскі нарадзіўся 8 лістапада 1784 года ў Вульцы каля Кляшчэль, дзе яго бацька быў уніяцкім пробашчам. Калі яму было некалькі гадоў, памерла яго маці. Выхаваннем так Міхала, як і ягонага старэйшага брата Язэпа, пазнейшага доктара філасофіі і права, заняўся іх бацька. У 1793 годзе спаўняецца Міхалу дзевяць гадоў і тады яго накіравалі ў пачатковую ўніяцкую парафіяльную школу ў Кляшчэлі. Кляшчэлеўская пачатковая школа працавала на высокім узроўні; яна ўзнікла ў XVII стагоддзі. Ужо ў гэтай школе Міхал Баброўскі паказаў сябе ў якасці добрага, сумленнага, працавітага і здольнага вучня.

У 1797 годзе Міхал Баброўскі паступіў у слаўную тады на ўсім Падляшшы школу піяраў у Драгічыне. Вучыўся ён ахвотна, звяртаў вялікую ўвагу на матэматыку і нямецкую мову. У 1803 годзе М. Баброўскі закончыў школу піяраў і ў гэтым жа годзе пачаў вучобу ў дзяржаўнай прускай гімназіі ў Беластоку. Тут ён вучыўся на працягу трох гадоў і ў 1806 годзе закончыў гімназію з сярэбраным медалём. Вынёс ён са школьнай лавы грунтоўныя, глыбокія веды, асабліва ж класічных і сучасных моў. Баброўскі шчыра хацеў прадаўжаць сваю навуковую адукацыю, аднак недахоп сродкаў перашкаджаў гэтаму. Некаторы час ён заставаўся настаўнікам у Беластоку, даваў прыватна лекцыі і сам вучыўся прыватна.

Міхал Баброўскі быў чалавекам таго складу розуму, які імкнуўся да навукова-даследчай працы. Гэтаму спрыяў уніяцкі манастыр у Супраслі пад Беластокам. У манастырскай бібліятэцы было шмат багатых рукапісных і друкаваных забыткаў. Таму не дзіўна, што кожную вольную хвіліну малады Баброўскі праводзіў у Супраслі, праседжваў у гэтай бібліятэцы, пазнаваў родную мінуўшчыну, культуру і старaславянскую мову. Паступова ён усё больш і больш уцягваўся да архіўнай і палеаграфічнай працы, што мела вялікае значэнне ў яго развіцці як вучонага.

Летуценны малады хлапец стараўся выкарыстаць усе магчымасці для працягвання сваёй вучобы. Ён марыў аб тым, каб паступіць у Віленскі ўніверсітэт. Хутка надарылася такая мажлівасць. Справа ў тым, што ў 1808 годзе пры Віленскім універсітэце была адчынена Галоўная семінарыя — вышэйшая тэалагічная школа. Яна была незалежнай ад касцельных і царкоўных уладаў, мела цесную сувязь з універсітэтам, становячы інтэгральную частку факультэта маральных і палітычных навук.

Міхал Баброўскі ад 1808 года вучыўся ў Семінарыі. Акрамя тэалогіі ён там вывучаў філалогію, матэматыку, гісторыю, класічныя і сучасныя мовы. 15 мая 1811 года ён атрымаў навуковую ступень магістра філасофіі. 24 чэрвеня 1811 года дасягнуў ён да вучонай ступені магістра прыкладных навук. У 1812 годзе ён канчае са ступенню магістра тэалогіі чатырохгадовы курс навук у Галоўнай семінарыі.

Летам 1812 года выбухае французска-руская вайна; войскі Напалеона займаюць Вільню. Аднак ваенныя падзеі гэтага перыяду не перашкаджаюць навуковай працы Баброўскага. Ён ізноў едзе ў Супрасль, дзе начынае сістэматычныя пошукі, навуковыя разведкі і даследаванні. Ужо тады ён натрапляе на сляды Заблудаўскай друкарні, якую ў 1568 годзе залажыў Рыгор Хадкевіч, а таксама на сляды маскоўскіх друкароў Івана Фёдарава і беларуса Цімафея Мсціслаўца, якія, выгнаныя з Масквы ў 1564 годзе, знайшлі сваё прыпынішча ў Заблудаве і тут выдрукавалі некалькі кніг, якія сёння з'яўляюцца вялікай рэдкасцю. Баброўскі таксама апісаў лёсы заблудаўскіх друкароў.

Калі пасля напалеонаўскіх войнаў Віленскі ўніверсітэт нанова пачаў працу, тады ізноў Міхал Баброўскі прадаўжае сваю адукацыю ў гэтай вышэйшай навуковай установе. Ён вывучае рымскае грамадскае і рэлігійнае правы, габрайскую і італьянскую мовы. У 1814 годзе Баброўскі атрымаў вучоную ступень магістра права і яму ўдалося атрымаць пасаду намесніка загадчыка кафедры Святога Пісання. Ад 1814 да 1817 года ён выкладае Святое Пісанне, маральную тэалогію і палітычныя навукі. Да духоўнай рэлігійнай дзейнасці Міхал Баброўскі не імкнуўся, яго больш за ўсё прыцягвала навукова-даследчая праца.

Адам Чартарыскі, куратар Віленшчыны, у 1817 годзе запрапанаваў Баброўскаму навуковую камандзіроўку ў замежныя краіны, каб там вывучаць Святое Пісанне а таксама славянскія і ўсходнія мовы. За граніцай Міхал Баброўскі прабываў пяць гадоў (1817-1822). Перад усім накіраваў ён свае першыя крокі ў Вену, дзе пазнаёміўся з вялікім славянскім вучоным Бартламеем Капітарам, а пры яго дапамозе і іншымі славістамі. Маючы рэкамендацыю Капітара Міхал Баброўскі паехаў да выдатнага чэшскага вучонага Даброўскага ў Прагу. Даброўскі пазнаёміў яго са славянскімі помнікамі ў пражскіх бібліятэках і апрацаваў яму праграму далейшых славістычных доследаў. З Прагі Баброўскі вярнуўся ў Вену. У ліпені 1819 года накіраваў ён свае крокі ў Рым; па дарозе наведаў Штырыю, Крайну і Харватыю. Пасяліўшыся ў Рыме Баброўскі наведваў музеі, Ватыканскую і Берберынскую бібліятэкі, хадзіў на багаслоўскія лекцыі. Акрамя таго ён раз'езджаў па Італіі і паўднёваславянскіх землях, шукаючы і вывучаючы старажытныя славянскія рукапісы і старадрукарскія рэдкія кнігі. Восенню 1821 года ён наведаў Парыж, дзе слухаў лекцыі ў Сарбоне, шукаў у каралеўскай бібліятэцы славянскіх рукапісаў, вывучаў арабскую мову. Падчас сваіх падарожжаў па славянскіх краінах Міхал Баброўскі ўтрымоўваў сувязь з Адамам Чартарыскім, пісаў яму справаздачы са сваёй навукова-доследнай працы, вёў свой дзённік, рабіў цікавыя філалагічныя і бібліяграфічныя нататкі. Апрача таго друкаваў свае заметкі і артыкулы ў віленскіх газетах і часопісах.

У выніку сваіх студыяў Баброўскі стаў вядомым вучоным славістам і арыенталістам. Быў ён таксама вялікім знаўцам беларускай мовы. Пасля таго, як Баброўскі вярнуўся ў Вільню, ён быў назначаны надзвычайным прафесарам Святога Пісання. Ён таксама часта гаварыў пропаведзі ў віленскіх уніяцкіх цэрквах. Міхал Баброўскі выкладаў на Віленскім універсітэце таксама арабскую мову. 5 ліпеня 1823 года ён атрымаў дактарат тэалогіі і быў назначаны звычайным прафесарам.

У 1824 годзе неспадзеўкі Міхал Баброўскі быў пазбаўлены прафесуры. У польскай навукова-гістарычнай літаратуры было прынята лічыць, што куратар Віленскай школьнай акругі Навасільцаў пазбавіў Баброўскага прафесуры разам з Лелевелем, Даніловічам і Галухоўскім за спагаднасць студэнцкай моладзі, выдаленай з універсітэта за прыналежнасць да Таварыства філарэтаў і філаматаў. Генрык Масціцкі прыводзіць тэкст пропаведзі, якую казаў Баброўскі 27 красавіка 1824 года ў касцёле кармелітаў у Вільні; яна нібыта была прычынай звальнення Баброўскага з прафесуры. Вось яе кароткі змест: „Czyż zawsze sędziowie idą drogą sprawiedliwości? Ile padło ofiar niewinnych, skazanych przez sąd stronny i przekupny, iluż cnotliwych obmowa lub zdrada strąciła w przepaść nieszczęścia? Niejeden ojciec licznej rodziny traci majątek i sławę skutkiem wyroku sądu, powodowanego duchem stronniczości. Niejeden młodzieniec, jedyna nadzieja rodziców, więdnie w kajdanach za domniemane przestępstwo, z którego rozgrzeszają go same lata młodociane. Uciemiężona niewinność wzywa do Boga o pomstę, a Bóg, jako sędzia sprawiedliwy i świadek serc ludzkich, wyniesie cnotę, przestępstwo zaś ukarze, jeżeli nie w tym życiu, to w przyszłym”.

Пасля таго, як Баброўскі быў пазбаўлены ўніверсітэцкай кафедры, духоўнае кіраўніцтва, паводле жаданняў царскай улады, выслала маладога беларускага прафесара ў манастыр у Жыровічы. З цягам часу Міхал Баброўскі памірыўся з лёсам, прыйшоў у сябе і ўзяўся за доследы па славістыцы. Цікавіўся ён таксама беларускай мовай, звяртаў увагу на яе спецыфіку, а з сялянамі сам гаварыў па-беларуску. Часам удавалася Баброўскаму вырвацца з Жыровіч, тады ён наведваў правінцыяльныя манастырскія бібліятэкі, дзе рабіў нататкі, запісы, працаваў над забытковымі рукапісамі. Прыкладна ў гэтым часе Баброўскі даканаў вялікага адкрыцця — у супрасльскай манастырскай бібліятэцы ён знайшоў надзвычай каштоўны забытак стараславянскай мовы, які ўвайшоў у гісторыю славянскай літаратуры і філалогіі пад назвай „Супрасльскі рукапіс” (пра яго будзе ў чарговым матэрыяле).

Аднак такі выдатны беларускі вучоны, з вядомым імем, звязаны з заходнімі, славянскімі, польскімі і рускімі вучонымі не мог доўга заставацца ў правінцыяльнай глушы. У лютым 1826 года Баброўскі быў амнісціраваны і атрымаў усе прафесарскія правы, якімі ён карыстаўся раней.

Віленскі ўніверсітэт у 1832 годзе быў закрыты. Яшчэ адзін год Баброўскі працаваў у Галоўнай семінарыі, а калі ў 1833 годзе і яна былы скасавана, ён змушаны быў расстацца з прафесурай. Уніяцкія царкоўныя ўлады, ад якіх залежаў лёс Міхала Баброўскага, назначылі яго свяшчэннікам у Шарашова (Пружанскі павет). Там ён жыў і працаваў да канца сваіх дзён. Будучы ў Шарашове Баброўскі кожную нядзелю і свята гаварыў пропаведзі заўсёды па-беларуску.

Такім чынам Міхал Баброўскі сваімі навуковымі доследамі на ніве славянскай і беларускай, сваімі беларускімі казаннямі і працай сярод беларускага люду ўнёс уклад у фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў — адзначыў Васіль Белаказовіч.

# Ганненскі кірмаш у Зэльве

У суботу, 25 жніўня, у Зэльве адбыўся Ганненскі кірмаш. Ён пачаўся пад праліўным дажджом, які ліў без перапынку аж да самага абеду. Вядома, дождж трохі перашкодзіў святу і людзям, але ж кірмаш адбыўся, нягледзячы на капрызы надвор'я.

Свята Ганненскага кірмашу ў Зэльве ўпершыню з'явілася ў 2001 годзе. І цяпер кожныя тры гады зэльвенцы збіраюцца ў сваім гарадскім пасёлку, каб адпачыць, павесяліцца, нагадаць той час, калі Зэльва славілася сваім Ганненскім кірмашом.

Менавіта так у XVIII — канцы XIX стагоддзяў называўся кірмаш, які праславіў Зэльву на ўсю Еўропу. Прычынай гэтаму стаў прывілей вялікага князя Аўгуста II ад 20 траўня 1721 года, які атрымаў Антоні Казімір Сапега на правядзенне ў Зэльве з 25 ліпеня па 25 жніўня штогадовых Ганненскіх (у гонар святой Ганны) кірмашоў.

На зэльвенскі кірмаш прыязджалі гандляры з многіх беларускіх гарадоў і мястэчак, а таксама з Польшчы, Прыбалтыкі, Украіны, Расіі, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і з іншых дзяржаў. Вось як пісаў вядомы польскі пісьменнік Юзэф Крашэўскі пра Ганненскі кірмаш у Зэльве: „З вельмі даўніх часоў Зэльва і яе жыхары падпарадкоўваліся дзіўнаму правілу — калі адзінаццаць месяцаў у годзе яны марнеюць, то толькі месяц жывуць". А вось як сёння напісаў пра кірмаш паэт Аляксей Галаскок:

З краін далёкіх у Зэльву коні  
Цягнулі цяжкія вазы.  
Вязлі тавар праз вёскі, гоні,  
Густыя цёмныя лясы.  
Сапегі гналі табуны  
Гарачых коней і грывастых.  
Ламавікі і скакуны  
Дрыжалі скураю блішчастай...





Фота Сяргея ЧЫГРЫНА

Кірмаш у Зэльве з'яўляўся не толькі гандлёвым цэнтрам, але і месцам увесялення, адпачынку. Тут быў тэатр, які належаў Сапегам. Сюды прыязджалі тэатральныя калектывы з Парыжа, Варшавы і Вільні. Выступалі жанглёры, фокуснікі, цыганы з дрэсіраванымі мядзведзямі.

З таго часу прайшло больш за стагоддзе. Сёлетняе свята пачалося на цэнтральнай плошчы пасёлка, сабраўшы некалькі тысяч чалавек. Свята віталі мясцовыя акцёры ў вобразах князя Сапегі і яго світы, якія ўрачыста адкрылі мерапрыемства. Пасля выступіў старшыня Зэльвенскага райвыканкама Ян Пальчыс. Выступленне яго было кароткім і на рускай мове. Цікава, як зрэагаваў бы на гэта Сапега, калі б на адкрыцці Ганненскага кірмашу нехта выступіў не па-тутэйшаму, не па-беларуску. Відаць, па галоўцы не пагладзіў бы. Тым не менш, пасля выступлення Пальчыса, над плошчай узвіўся сцяг свята.

Пасля ўрачыстага адкрыцця пачаўся вялікі канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці. Гучалі не толькі беларускія песні, але і прыпеўкі, анекдоты, вершы. З цэнтра Зэльвы свята разышлося па ўсім пасёлку.

Найбольш зэльвенцаў прысутнічала на кірмашы рамёстваў, на выставах выяўленчага мастацтва, на конкурсна-спартыўных пляцоўках.

У чытальнай зале мясцовай бібліятэкі ўпершыню адбылася навукова-практычная канферэнцыя на тэму развіцця бізнесу ў сельскай мясцовасці Беларусі, яго праблемы і магчымасці з удзелам установы „Новая Еўропа", Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва.

Пасля абеду свята працягвалася на стадыёне „Колас". Запомніліся найперш конкурс павозак і выстава конных парод. Калі ў свой час Сапега прыганяў на торг з зэльвенскіх вёсак Бярэжкі і Алексічы жарабцоў англійскай, турэцкай, дацкай і неапалітанскай масці, то сёлета на зэльвенскім свяце былі пароды коней рускіх запражных, беларускіх і рускіх цяжкавозаў. Іх прывезлі на выставу з мясцовых гаспадарак. Вярхом на конях бясплатна маглі пакатацца ўсе жадаючыя.

Вядома, у дзень урачыстасці шмат працавала гандлёвых пунктаў з Зэльвы, Ваўкавыска, Слоніма. Прадаваліся салодкія напоі, ласункі, сувеніры. Сёлета нават арганізавалі гандаль кнігамі, прадавалі кнігі землякоў. Дарэчы, некалі ў Зэльве была добрая кніжная крама, цяпер яе няма. А сто пяцьдзесят гадоў назад на Ганненскі кірмаш з Вільні кнігар Рафаловіч прывозіў у Зэльву сотні кніг. І зэльвенцы іх накуплівалі столькі, што хапала чытаць на ўвесь год.

Запомнілася на свяце ў Зэльве афармленне крам, якія знаходзяцца ў цэнтры пасёлка. Замест савецкіх назваў тут з'явіліся: гасцёўня „У пані Валабрыньскай", карчма „Шляхецкая зала", крама „У пані Алены" і іншыя. А можа іх пакінуць назаўсёды? Тады і не трэба было б мяняць пастаянныя чужыя шыльды на гістарычныя беларускія.

Сяргей ЧЫГРЫН

## www.wkn.by

Беларускі медыя-рынак прынята лічыць бедным. Сапраўды, вялікай колькасці як вузка спецыялізаваных, так і грамадска-палітычных выданняў рознай накіраванасці тут няма. Таксама як няма мноства радыёстанцый і тэлеканалаў, якія асвятляюць падзеі ў краіне з розных пунктаў гледжання. Але, нягледзячы на такія акалічнасці, пры жаданні атрымаць больш-менш аб'ектыўнае ўяўленне аб беларускім жыцці з розных крыніц можна. Усё гэта дзякуючы інтэрнэту.

Не так даўно ў беларускім сеціве з'явілася інтэрнэт-выданне WK News, якое месціцца па адрасе **www.wkn.by.** Крыху дзіўная назва расшыфроўваецца і перакладаецца як „Навіны Вялікага Княства". „Вялікае Княства" з'яўляецца працягам інфармацыйнага праекта „Сусветная служба радыёстанцыі „Беларуская Маладзёжная" (1991-1994 гг.), у аснову якога быў пакладзены прынцып свабоднага абмену інфармацыяй паміж краінамі пры ўдзеле журналістаў-беларусаў (прадстаўнікоў дзвюх культур). Праект ставіў на мэце стварэнне ў незалежнай Беларусі міжнародных камунікацый новага кшталту, уключэнне краіны ў міжнародную інфармацыйную прастору, збліжэнне Усходу і Захаду, садзейнічанне сталым стасункам (ва ўсіх сферах жыцця) паміж дыяспарай і бацькаўшчынай", — так распавядаюць пра сваю перадгісторыю стваральнікі „Вялікага Княства" на старонцы „Пра выданне", выйсце на якую можна знайсці толькі ўнізе цэлага выяўлення.

Што ж тычыцца цяперашніх мэт, то, паводле каардынатара праекта Уладзіміра Давыдоўскага, гэта ўмацаванне грамадзянскай супольнасці ў краіне на грунце духоўных, культурных, гістарычных і дэмакратычных каштоўнасцей; спрыянне фарміраванню адкрытай інфармацыйнай прасторы; садзейнічанне станаўленню паважлівых адносін да прадстаўнікоў розных народаў і верабызнанняў; папулярызацыя адметных гістарычных і авангардных накірункаў беларускай літаратуры, музыкі, мастацтва; падтрымка творцаў, якія па сваім фармаце не ўпісваюцца ў заангажаванае дзяржавай мастацтва і праекты камерцыйнага кшталту.

Галоўная старонка сайта выглядае проста, але прывабна. Мае нескладаную навігацыю, яе асноўныя рубрыкі ахопліваюць амаль усе бакі грамадскага жыцця. „Навіны", „Палітыка", „Эканоміка", „Грамадства", „Культура", „Беларусь", „Еўропа", „Свет" даюць даволі поўную навінную інфармацыю, пры гэтым, праўда, маецца адзіны, але надта вялікі мінус — апошнія паведамленні на сайце датуюцца чэрвенем 2012 года. А на дворы ўжо восень.

Разам з тым ёсць там тэксты на тэмы, што заўсёды будуць актуальныя. Акурат унізе выяўлення можна ўбачыць рубрыкі „Краіна", „Гісторыя", „Асобы". Там распавядаецца пра беларускія сімвалы, Беларускую Народную Рэспубліку, асобныя гарады Беларусі.

У рубрыцы „Асобы" мы зможам пазнаёміцца з меркаваннямі былога пасла Швецыі ў Мінску Стэфана Эрыксана, які лічыць, што абедзве краіны шмат што звязвае, альбо пра жыццё колішняга эстонскага беларуса Лявона Валуя, які вярнуўся на радзіму і штодня вывешвае ў роднай вёсцы бел-чырвона-белы сцяг.

Варта адзначыць, што „Вялікае Княства" мае яшчэ адну версію — „Вялікае Княства. Эліта — WK Elite", гаворка пра якую пойдзе наступным разам.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Скарбы Беларусі

### Белавежская пушча

Белавежская пушча — адзін з найбольш устойлівых сімвалаў і брэндаў усёй Беларусі за мяжой. Гэты дзівосны абшар прыроды, аднак, дагэтуль неспазнаны самімі насельнікамі краіны. Прычын тут некалькі. Па-першае, Рэспубліка Беларусь — не „клачок зямлі", як часцяком кажуць дзяржаўныя невукі, а даволі вялікая па тэрыторыі краіна. Ажно трынаццатая па велічыні плошчы ў Еўропе! Таму жыхары, прыкладам паўночнай Віцебшчыны слаба арыентуюцца ў рэаліях Палесся, магілёўскія насельнікі слаба разумеюць менталітэт, скажам, жыхароў колішняга Ашмянскага павета. Ну і, канешне, наадварот. Людзі, якія жывуць пры пушчы, ці амаль у ёй, маюць свой характар, больш лагодны і філасофскі, зазвычай яны нешматслоўныя і грунтоўныя. Такімі іх зрабіў лес, які, відавочна, уплывае на свядомасць.

Частка Белавежскай пушчы, якая ўваходзіць у тэрыторыю сённяшняй Беларусі, складае ажно 87,5 тысячы гектараў. Гэта вялізная прастора і на ёй непатрэбна ствараць асаблівых атракцый, каб не парушыць натуры. Аднак некаторыя рэчы, якія прываблваць турыста, развіваць безумоўна трэба. Прыкладам такія, як забаўляльная чыгунка на тэрыторыі па другі бок мяжы — на Падляшшы. Здаецца, аналагаў ёй няма нідзе, а адпачынак яна дае фантастычны. Развіты тут і роварныя сцежкі. Мне ўвогуле, дзякуючы беластоцкім сябрам, больш даводзілася знаёміцца з Белавежскай пушчай на тэрыторыі сучаснай Польшчы. У памяць урэзалася дзівосная гісторыя-паданне, расказаная праваднікам, пра таўшчэзныя дрэва, дакрануўшыся да якога можна захварэць „непрыстойнай" хваробай. Адзін з нашых спадарожнікаў, чалавек творчага складу, наважыўся праверыць гэта на сабе. І што вы думаеце — легенда абсалютна пацвердзілася.

Беларуская пушча — адна з найстаражэйшых лясных прастораў усяго кантынента. Першыя абмежаванні на паляванне тут былі ўведзены яшчэ ў XIII стагоддзі, з 1541 года тут пачалі ахоўваць зубра, а з 1640 года была забаронена высечка лесу. У дрымучых зарасніках тут любілі паляваць расейскія цары і савецкія генеральныя сакратары. Але і тады пушчу ў цэлым бераглі. Бяда прыйшла не так даўно, калі западныя лясы пачалі вынішчаць, а каштоўнае дрэва адпраўляць на экспарт. Эколагі пачалі біць у званы, але апошнім часам пра маштабы вырэзвання дрэў і пра сапраўдны стан рэчаў мы ведаем мала. На тэрыторыі Беларусі пушча стала менш даступнай для звычайнага чалавека ў апошнія дваццаць гадоў. Сюды не так проста патрапіць з-за так званай памежнай зоны. А ўжо пра тое, каб зладзіць нейкую экспедыцыю і мовы няма. Можна, праўда, заблукаць, збіраючы грыбы на тэрыторыі, скажам, Свіслацкага раёна. І тады цябе будуць доўга шукаць, а пасля напэўна ўвальяць яшчэ штраф. Сучасныя ўлады стварылі ў пушчы рэзідэнцыю Дзеда Мароза, у якую рэгулярна наведваюцца школьныя аўтобусныя экскурсіі. Толькі ўсё гэта нейкае чужароднае, штучнае і зусім не беларускае.

На дзіва пра Белавежскую пушчу складзена не так багата песень, хоць вершаваных твораў пра яе процьма. Папулярным хітом усяго Савецкага Саюза быў твор „Песняроў", праўда ў арыгінале ён быў па-расейску. Верш Мікалая Дабранравава пераклала наша Наталля Арсеннева і песня стала яшчэ больш мілагучнай. Аднак, апошнім часам яе можна пачуць досыць рэдка.

Сапраўдная вандроўка па Белавежскай пушчы з начлегам у дзікай прыродзе, так каб „выжыць кожнай цаной", застаецца маёй даўняй марай. Толькі, канешне, каб неаднаму, а з сябрамі...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Вульцы-Тэрахоўскай

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

**— Вулька-Тэрахоўская, што ў Чаромхаўскай гміне, сягае гісторыяй 1731 года. У каралеўскіх спісках маёмасці была запісана пад назвай Вулька-Тэрахі. У пазнейшых дакументах з 1786 года былі ўжо зафіксаваны дзве раўнапраўныя вёскі: Вулька і Тэрахі. Пасля III раздзелу Польшчы царыца Кацярына II Вульку з тэрахоўскімі маёмасцямі перадала сям'і князя Гагарына. Цяперашняя назва Вулька-Тэрахоўская мабыць з'явілася пры канцы XIX стагоддзя.**

У мінулым валяне славіліся з бондарства. Іхнія бочачкі, балеі, ступы, шаплікі ды іншыя вырабы з драўніны карысталіся рэпутацыяй на Кляшчэлеўскім рынку. Кожны панядзелак праз Кузаву цягнуліся фурманкі валянскіх бондараў.

У 1942 годзе за пераховўванне савецкага лейтэнанта Уладзіміра Харытонава быў расстраляны фашыстамі Хведар Зінчук. У гэтай жа магіле быў пахаваны савецкі афіцэр і дзевяць іншых аднавяскоўцаў. Супольная брацкая магіла знаходзіцца на сядзібе за стадолай Федзі Назарука. Пры камуне помнікам апекаваліся школьнікі з Чаромхі. У дзень перамогі праходзіў тут мітынг і ўскладаліся вянкі.

У вёсцы мала хто памятае мінулае. Старажылаў на пальцах можна пералічыць. Найстарэйшымі жыхарамі лічацца Васіль Верамчук і Хведар Стэльмашук, якога аднавяскоўцы Пятром клічуць. Абодва дзядулі дасягнулі 89-гадовага ўзросту. Абодвух дасведчыў няласкавы лёс. Гадамі прыходзілася ім бадзяцца па чужыне, Верамчуку на ссылцы ў Расіі, а Стэльмашуку на прымусовых работах у Нямеччыне.

У час калектывізацыі Вулька атрымала электрычнае святло. Было гэта ў пяцідзесятыя гады. Вёска была радыёфікавана. У солтыса Аляксандры Назарук быў абсталяваны радыёвузел. Паколькі не было святліцы, кватэра Санькі (так солтысіху клікалі валяне) была месцам зборышча моладзі і старэйшых. Тут я арганізаваў гурток БГКТ і вакальную групу, якую ўзначальвалі дзве маладыя прыгажуні Валя Петышук і Марыся Якубіч. Выступалі яны на святкаваннях у гміннай Чаромсе, гасцявалі ў іншых вёсках. Запамятаўся мне іхні выступ у Нарве. Публіка была зачаравана вясёлымі савецкімі частушкамі, як і лірычнымі песнямі. Дуэт атрымаў працяжныя апладысменты. Мабыць гэтыя пявунні далі пачатак слаўным „Вульчанкам", якія па сённяшні дзень падтрымліваюць традыцыю і любоў да народнай песні.

Два гады таму была зададзена ў карыстанне пасля рамонту вясковая святліца. Кошт інвестыцыі склаў суму 75 741,70 зл., прытым пакарысталіся 25 тысячамі еўрасаюзных сродкаў. Вулька-Тэрахоўская налічвае 59 гаспадарак, у якіх пражываюць 93 жыхары (некаторыя сялібы апусцелыя), у асноўным пенсіянеры. Будні вясковага жыцця сціскаюць на карпатлівых занятках у хатняй гаспадарцы, вечарамі на агляданні тэлебачання...

Першая субота верасня была святочным днём для жыхароў памежнай вёскі (Вулька пры дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь). Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, Чаромхаўская гміна і Гмінны асяродак культуры арганізавалі тут беларускі фэст „І тут жывуць людзі". У мерапрыемстве ўдзельнічалі войт Чаромхаўскай гміны Юры Шыкула, старшыня Гміннай рады Надзея Суліма, сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк і вядомы зямляк з Чаромхі пісьменнік Веслаў Разбіцкі. Ганаровым госцем з'явіўся дырэктар Беларускага музея Тамаш Ціханюк. А ў мастацкай частцы выступілі гурт „Гай" з Беластока, мясцовыя „Вульчанкі" ды два вядомыя нарваўскія калектывы „Нарва" і „Арт-Пронар". Як традыцыя наказвае, быў арганізаваны музейны этнаграфічны куточак з рукадзельнымі вырабамі, беларускай літаратурай і фанатэкай. У тым жа месцы чаромхаўскі пісьменнік прэзентаваў і падпісваў сваю апошнюю кніжку „Як тут пахне Чаромхай".

Канцэрт пачаўся ў 16 гадзін і доўжыўся больш за дзве з паловай гадзіны. Першым выступіў „Гай" пад кіраўніцтвам Мар'юша Харужага. Вакальна-музычная група запрэзентавала народныя гіты „Цячэ вада ў ярок", „Колькі ў небе зор", „Вяне рута" ды іншыя. Пасля кожнага нумара чуліся гучныя апладысменты. Публіка не адпускала артыстаў са сцэны. Змушаны былі выканаць дзве песні на „біс": „І ты прымак, і я прымак" ды „Смэрэка". „Вульчанкі", запрэзентаваўшы мясцовы фальклор, уступілі месца 72-гадовай бабульцы Вользе Верамчук, якая раней выступала з пеўчай групай. У яе выкананні прысутныя паслухалі песню „Явар над вадою". Затым выступіла музычная група „Нарва" ў асобах Міхал Вадоўскі — трубка, Войтак Свентахоўскі — акустычная гітара і спеў, Андрэй Ёрш — бас-гітара і спеў, Давід Юшкевіч — акардэон і спеў, ды бубнач — Пятрусь Когут. Музыканты шыкоўна запрэзентаваліся перад публікай. Усе маладыя, зухаватыя, а іхняя музыка і беларускія песні не толькі пакарылі сэрцы маладых гледачоў жаночага полу, але і старэнькіх бабулек. Пры іхняй музыцы ногі самі зрываліся да танца. Канцэрт завяршыў гурт „Арт-Пронар". Першыя песні „Плачучая гітара" і „Адзін раз у год сады цвітуць" даказалі, як аўдыторыя ацэньвае артыстаў. Пасля першай, як і другой песні гучалі працяжныя воплескі. Пасля былі „Белая Русь", „У цыганскім табары", „Белая касыначка", „Маміна сарочка" і шмат іншых. І калі вядучыя Паўліна Паўлючук і Марыёля Герман аб'явілі завяршэнне канцэрта, пачулася гучнае „Біс!!". Прытым і мясцовая солтыс, адначасова радная, узяўшы голас, папрасіла калектыў працягнуць канцэрт. Кіраўнік гурту Янка Снарскі не даўся доўга прасіць. Госці выканалі яшчэ некалькі песень, у тым ліку „Белую касыначку" і „Маміну сарочку".

Пры развітанні голас узяў войт Юры Шыкула, які сардэчна падзякаваў дырэктару Музея Тамашу Ціханюку за сарганізаванне фэсту „І тут жывуць людзі", як і належны падбор мастацкіх калектываў. Затым дырэктар узаемна падзякаваў войту і Тамары Кердалевіч, якая прадстаўляла ГАК, за падтрымку ў арганізацыі мерапрыемства, як і фінансавую ўспамогу. Варта адзначыць, што асноўным спонсарам беларускіх фэстаў „І тут жывуць людзі" з'яўляецца Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. За гэта ім належыцца шчырае дзякуй!

## Адгаданка

1. жыхар сярэднявечнай Смаленшчыны, 2. вялікая рака, на якой Базель і Кёльн, 3. птушка сямейства крумкачыных з чорным бліскучым апярэннем (*Corvus frugilegus*), 4. сяброўка кіламетра і вярсты, 5. трэці гук музычнай гамы, 6. кіраўнік, начальнік, шэф, 7. буйны бакавы адростак ад ствала дрэва, 8. не расце на вытаптанай дарозе, 9. Уладзімір, лідар ансамбля „Песняры" (1941-2003), 10. даўней рукапіснае, пазней друкаванае а ў навейшы час таксама электроннае выданне, 11. колішняя паштовая станцыя, 12. жоўта-зялёнае выдзяленне печані, 13. можа быць бяздонная, можа быць з порахам, можа быць з селядцамі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — нямецкая пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Качарга, кіно, кроў, лад, літ, масіў, ток, тэта.

Рашэнне: **Калода карт гэта чартоўскі малітоўнік**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 30.09 — 06.10

**(22.03. — 20.04.)** Поўня Месяца 30.09. зробіць з цябе страшнага нервуса, на кожным кроку будзеш скандаліць! Важныя справы перанясі на наступны тыдзень. У панядзелак не выступай супраць іншых. У пятніцу можаш разлічваць на большыя грошы. У суботу для цябе найлепшае месца — на фатэлі перад тэлевізарам.

**(21.04. — 21.05.)** Твае пачуцці пераважаюць над логікай. Маеш, аднак, сілу супрастаяць негатыву. Адкінь раздражнёнасць і пастарайся глыбей уніякнуць у прапановы. У панядзелак можаш пазбыцца з хаты грызуноў. У аўторак і сераду можаш мець перабоі з кантактаваннем. У чацвер не мяняй месца працы ці роду занятку. У пятніцу сустрэнешся з уплывовымі людзьмі.

**(22.05. — 22.06.)** Наступае добры час, калі сустрэнуцца табе добрыя людзі. Наплыў пазітыўных эмоцый, новых знаёмстваў і цікавых сустрэч. Чым больш будзеш актыўны, тым на большае можаш разлічваць у будучыні. У пятніцу не сядай у апошні вагон транспарту.

**(23.06. — 23.07.)** 30.09. стрэсы на працы; не паўплывае гэта добра на адносіны з блізкімі. Нечаканыя падзеі могуць зрабіць тваё жыццё захапляльным! Маеш шанц здабыць у сваім жыцці штосьці новае. Не дазволь таму, што назначана табе лёсам, праслізнуцца побач цябе! Любая інфармацыя з гэтага тыдня можа прыдацца ў кожнай сферы твайго жыцця.

**(24.07. — 23.08.)** Для практычных і прадпрымальных Ільвоў наступае час перамен, у большасці жаданых. У аўторак не падвярніся кіраўніку, у якога будзе кепскі настрой. У пятніцу ў тваім жыцці пачнецца ўздым, чакаюцца новыя знаёмствы, у тым ліку і рамантычныя.

**(24.08. — 23.09.)** Нечаканыя здарэнні, якія разварушаць тваё жыццё. Старая дружба можа перарасці ў каханне. Не апранай у панядзелак белага. У аўторак атрымаеш значны шанц на поспех. У чацвер пільнуйся ўзыходзячы па лесвіцы. У пятніцу пад вечар чакае цябе незвычайная сустрэча. У суботу не пакідай незавершанага.

**(24.09. — 23.10.)** Прапаўшыя ў гэты тыдзень прадметы і дакументы страцяцца назаўсёды, таму не раскідвай асабістых рэчаў. Больш часу аддай сваім хатнім. Пад канец тыдня магчымыя рамантычныя сустрэчы. У аўторак удадуцца ўсе справы. У сераду будзь асцярожны на вуліцы. Вечарам у чацвер не ідзі ў месцы, дзе будзе шмат людзей.

**(24.10. — 22.11.)** Тыдзень без асаблівых падзей. Ненайлепшы час для любоўных прызнанняў і заключэння якіх-небудзь саюзаў ці аб'яднанняў. Адкладзі справы датычныя да твайго асабістага жыцця. Прыйдзецца шукаць новых шляхоў і вырашэнняў праблем. У панядзелак не бяры ў рукі шкла. У сераду будзь асцярожны з машынамі.

**(23.11. — 22.12.)** Прыйшоў час рэалізаваць свае старыя планы. Цяпер будуць вырашацца пытанні датычныя тваёй кар'еры; праяві ініцыятыву, каб не застацца пры разбітым карыце. Прынясе карысць супрацоўніцтва. Чакаюць новыя сустрэчы, мабыць і раманы. Дзейнічай актыўна, асабліва ў панядзелак.

**(23.12. — 20.01.)** Чакаюць цябе шматлікія сюрпрызы. Будзь гібкі і гатовы на кампрамісы. Не пакідай незавершаных спраў. Не купляй абутку ў аўторак. Пятніца — добры дзень для пераезду, наваселля.

**(21.01. — 19.02.)** У тваім жыцці пачнуцца перамены. Адновяцца пачуцці. Рухайся ў „агульным патоку", асабліва не праяўляючы ініцыятывы. Займіся завяршэннем галоўнай праблемы ці справы. Усё вельмі спраўна пойдзе ў сераду.

**(20.02. — 21.03.)** Калі хтосьці затаіў супраць цябе камень за пазухай, цяпер яго дастане. Спакойна! У панядзелак пільнуй свой язык. У аўторак магчымыя вялікія грашовыя страты. У чацвер не згубі дакументаў. У пятніцу непрадбачанае здарэнне можа давесці да сур'ёзнага канфлікту дома. У суботу слухай і сачы за інфармацыяй.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# На хвалі святой камерцыі (7)

Фота і тэкст Евы СЦЕПАНЮК

У люстры Метэорскіх манастыроў лёгка адчытаць гістарычны працэс думкі і духу сучаснай і старажытнай Элады. Найбольш інтрыгуючы тут дахрысціянскі кантэкст, ці лепш сказаць — працяг жыцця „назад”. У манастыр святога Сцяпана цягнуць інтэлектуалы са свету, каб пакланіцца арыгінальнай святыні — рукапісу „Палітыкі” Платона. Старажытны грэчаскі філосаф, пра што мы ўжо раз сказалі, уключаны ў рады святых Эладскай царквы.



У дарозе да манускрыпта турыст і паломнік спатыкнецца аб змрочны парог гісторыі. Сучасны чалавек прывык глядзець на абезгалоўленыя помнікі старажытных багоў і герояў. Тут пабачым абезгалоўленыя хрысціянскія іконы. Яны балюча западаюць у памяць і застаўляць думаць пра паходы іншапляменцаў, пра містычны жах, што цягам стагоддзяў жэр мазгі і душы паднявольных народаў. Іконы з вывамі абезгалоўленых святых сучасныя грэкі захоўваюць на памяць няслаўнай турэцкай няволі.

* * *

У *Аповесці пра пакутніка Меркурыя* як на далоні асветлены пасладоўнасці мангольскай навалы. Эскалацыя нахабства і жаху мяшаецца з дымам палаючых гарадоў ды плачам жанчын і дзяцей. На першы агонь пойдуць манастыры і цэрквы з іх служкамі і абаронцамі. Аўтар успамінае манашак, прымушаных да прастытуцыі, пра цэрквы і манастыры, замененыя на бардэлі або клаакі. Як сімвал жаху прамаўляе карціна з ненароджанымі дзеткамі. Заваёўнікі ўпадабалі сабе адну „пацеху”: яны лавілі цяжарных жанчын, каб на вачах сагнанага натоўпу распароць жывот мячом і дабытае з акрываўленага ўлоння немаўля *аб зямлю ударахy*. Не менш нахабна і ўнушальна асвятляецца ганенне ў ясырняволю. У якасці жывога тавару захопнікі найбольш упадабалі светлавалосых дзяўчат і маладых жанчын. Іх вязалі косамі, каб пасля гнаць у бязвольнай калоне. На іх прыніжэнне і боль трэба было глядзець здзеравянелым ад жаху братам, бацькам і маладым мужам... Мужчын і хлапцоў, як кажуць гістарычныя крыніцы, чакала не менш страшная роля і доля. Іх сілком забіралі ў армію, прымушалі ваяваць на самых небяспечных і цяжкіх адрэзках фронту ды прыкладна здзекавацца з падбітых народаў...

Хваля містычнага жаху, якую неслі з сабой паходы хана Батыя ў першай палове XIII стагоддзя, была занесена на наша Падляшша. Праўда, дзякуючы дыпламатыі і таленту князя Даніла Раманавіча, нашы продкі пацярпелі менш, чым жыхары Кіева ці Масквы. Згодна з абавязваючай звычкай, князі ад пабітых паднявольных княстваў былі вымушаны падацца ў сталіцу Арды — па ярлык, дазвол на панаванне. Князь Даніла вярнуўся адтуль жывым! Ён абавязаўся дасылаць даніну ў золаце і дабытку ды назначаную колькасць хлапцоў у мангольскую армію.

У *Аповесці пра пакутніка Меркурыя* ўпамінаюцца князь Міхал Чарнігаўскі і яго баярын Фёдар, якія ў час падобнага візіту па ярлык паклалі галовы ў Залатой Ардзе. Бо яны адмовіліся пакланіцца нехрысціянскім багам!



Святыя Меркурый і Аўраамій Смаленскія

* * *

Святы Хараламапс нарадзіўся 3 жніўня 1723 года і яго місія выпадае на канец турэцкага панавання. Яго ікону адшукалі мне на гарышчы ў прыманастырскай краме з залатымі ланцугамі замест Меркурыя Смаленскага. У агіяграфіі грэчаскага святога многае здалося знаёмым і... сугучным з нашым беластоцка-беларускім панадворкам. Яшчэ больш ён падыходзіў да палітычна-ментальнай рэчаіснасці ў Рэспубліцы Беларусь.

Святы Хараламапс нарадзіўся на востраве Крыт у заможнай сям'і. Тры яго ныя браты былі саноўнікамі ў турэцкай арміі. Дзякуючы іхняй прамоцыі меў ён магчымасць зарабляць грошы і працаваць у карысць Асманскай імперыі. Яго жыццём аднак пакіравала малітва. З малады х гадоў Хараламапс уцякаў ад свету, хаваўся ў пячорах, каб там заносіць малітвы да Божай Маці. Калі прыйшла спеласць і час заснаваць сям'ю, явілася Хараламапсу на яве Божая Маці. Багародзіца паклікала служыць у манастыры і дапамагаць бедным грэкам. Малады крыцянін з годнасцю і ўдзячнасцю, нягледзячы на лямант і пратэст сям'і, падняў містычны выклік з неба. І накіраваўся ў самы зняволены куток бацькаўшчыны. У вёсцы, дзе меў знаходзіцца ягоны манастыр, прывітала хваля ментальнай няволі. Тут афіцыйна не было царквы ні анклава, прызначанага для рэлігійных абрадаў. Усё дзейнічала ў падполлі і асцярожнай засакрэчанасці. Манахі прыкідваліся збядненымі вяскоўцамі. Яны не мелі адвагі надзець манаскую вопратку і адкрыта прапаведаваць веру. Хараламапс прысеў на камені, памаліўся і заплакаў. Ментальны прыгнёт дзейнічаў як хвароба, ад якой млее душа і вяне цела. Людзі пастаянна наракалі на нэндзу, якая станавілася іх прывычкай і спосабам мышлення пра сябе і свой назначаны горшасцю свет. За ўсё вінавацілі сваіх аднаплеменцаў, якія супрацьставіліся турэцкім „дарам”. Хараламапс як адукаваны, натхнёны чалавек разумеў з якім змрочным сапернікам прыйдзецца яму змагацца. Ён пачаў абараняць ахвяр нацыянальнага і рэлігійнага пераследу і, можна сказаць, што быў кімсьці накшталт сучасных праваабаронцаў. Сілу і веру ў слушнасць справы давалі яму малітва і натужлівая, штодзённая праца ў карысць патрабуючых. З часам, як адзначаюць усе агіяграфы, турэцкі рэжым палягчэў. Грэкі атрымаюць больш канцэсій на гаспадарчую дзейнасць, пабагацеюць. І асноўнае — перастануць баяцца свайго духу! І гэта вялікая заслуга святога Хараламапса, які змагаўся руплівай працай і ціхай малітвай.

*(працяг будзе)*




Святы Харалампас



ISSN 0546-1960